
Сустрэчы з калядкай → 5

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Бародаўка → 9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 05 (3064) Год LX | Беласток, 1 лютага 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Канстанцін Целушэцкі

# Нараўка стаіць мастакамі

— Гэта гістарычны момант у жыцці нашай галерэі. Гэта першая такая выстава. Дасюль у асноўным мы ладзілі пленэрныя выставы. Паказваліся ў нас творцы з Польшчы і Беларусі, — так пракаментавала адкрыццё выставы мясцовых мастакоў у галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы Кацярына Бяляўская. Аглядаючы працы адзінаццаці мясцовых і выводзячыхся згэтуль творцаў — аматараў і прафесіяналаў — войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч не скрываў: „Наша гміна стаіць мастакамі”.

Задумшчыкам выставы з'яўляецца Пётр Карпюк — фатограф, скульптар, музыка.

Галерэя была заснавана па ініцыятыве гміннага самакіравання ў сакавіку 2007 года ў пераабсталяваным будынку былой пачатковай школы, якая яшчэ памятае перыяд царызму. Па-за выставачнай дзейнасцю праводзяцца тут канферэнцыі, сустрэчы з пісьменнікамі і паэтамі беларускага паходжання. На адкрытай 17 студзеня выставе можна ўбачыць работы, выкананыя ў розных тэхніках: жывапіс, графіка, фатаграфія, барэльеф, тканіна, маскі і нават макет Нараўкі пачатку XX стагоддзя з будынкамі ў гліне, зроблены вучнямі мясцовага школьнага комплексу. Аб ідэі экспазіцыі Кацярына Бяляўская сказала „Ніве” наступнае:

— З ідэяй арганізацыі выставы Пётр Карпюк заявіўся ў наш гмінны культурны цэнтр. Мы нават не спадзяваліся, што так шмат мастакоў жыве ў нашай гміне. Некаторыя мастакі адмовіліся ўдзельнічаць у выставе, але не таму нават, што не хацелі. Проста не паспелі падрыхтаваць прац. Гэта праўда, што калісь напісала ў „Ніве” Міра Лукша: „У Нараўчанскай гміне на адзін квадратны кіламетр прыпадае дзесяць паэтаў”. І штосьці ў гэтым ёсць, і гэта таксама адносіцца і да іншых творцаў. Шмат хто з іх хавае свае працы „ў стол”. А мы хочам, каб яны іх прадставілі.

Пётр Карпюк:

— Ідэя арганізацыі выставы прыйшла мне ў галаву з паўгода таму, і так хадзіла за мною з таго часу. Я звязаўся з цэнтрам культуры і без праблем атрымалася давесці да яе адкрыцця. Тут і я паказваю здымкі. Фатаграфіяй займаюся з 80-х гадоў, з моманту, калі я, тады падлетак, атрымаў першы фотаапарат маркі „Смена”. На працягу многіх гадоў назбіралася шмат здымкаў, і я прыйшоў да высновы, што некаторыя павінны быць паказаны. Я люблю па-аматарску здымаць пейзажы, людзей... У мяне няма адной канкрэтнай тэмы, якой займаюся. Зрабіць здымак часам прыцягне мяне нейкае файнае святло, часам цікавыя формы, унікальныя сітуацыі, улаўліванне спецыфічных момантаў, такіх што звычайна не ўбачыш, а прыкмеціць іх фотаапарат.

Канстанцін Целушэцкі, брат нашага карэспандэнта і солтыса Новага Ляўкова Яна, паэт, які публікуе свае вершы ў „Ніве”, прадставіў некалькі работ, выкананых вядомай са старажытнасці тэхнікай інтарсіі. Гэтая дэкаратыўная тэхніка, якая заключаецца ў стварэнні карціны шляхам выкладвання паверхні драўляных прадметаў іншымі пародамі драўніны, падфарбаванымі, бейцаванымі або падпальванымі.


Злева: Галіна Бірыцкая, Ядвіга Карпюк і Тадэвуш Кшыжанскі

Устаўкі ўкладваюцца ў месцы фрагментаў выдаленых з паверхні прадмета. Кацярына Бяляўская:

— На Гайнаўшчыне шмат людзей рабіла працы тэхнікай інтарсіі. Навучэнцы сталярскай справы ў Гайнаўцы былі абавязаныя вывучыць веданне ўкладкі. Цяпер гэта крыху прызабытая тэхніка. Няма каму такім чынам упрыгожваць драўляную мэблю.

У невялікіх прастакутных частках спадар Целушэцкі (па прафесіі цясляр) увекавечвае ў асноўным жывёльныя і раслінныя матывы:

— Гэта мая цікавасць яшчэ са школьнага часу. Мне спадабалася, як хлопцы ў інтэрнаце рабілі такія цуды. У пачатку мне выходзіла ненайлепш, але з часам я стаў дасведчаным, і вынік быў лепшы. Я зрабіў такіх прац больш чым сто. Гэта нялёгкая праца. Трэба ўмела дапасаваць шпону, каб не было шчылінак, дакладна дапасаваць усе спайкі, дакладна вырысаваць карціну, якую хочаш мець, хораша завяршыць і вядома, знайсці кавалак дрэва з адпаведным колерам. Я раблю сам таксама нож, дапасоўваю яго форму да рукі. Як доўга я маю справу з адной працай, залежыць ад таго, што хачу зрабіць. Распятага Ісуса Хрыста, напрыклад, я рабіў шмат часу. Самую галаву з барадой, вачыма, вуснамі і вянцом — тры дні. Большыя элементы ўжо хутчэй. Калісь я шмат прац прадаў, таму што зашмат грошай у хаце не было. Вазіў я свае працы на продаж у Гайнаўку. Цяпер я не раблю гэтага. Я застары, занадта слабыя вочы. Я нават спрабаваў, але няма такога выніку як раней.

Тадэвуш Кшыжанскі, сын выдатнага прафесара матэматыкі Віленскага ўніверсітэта, нашчадак дзевятнаццацівечнага беларускага паэта і драматурга, папулярызатара беларускай мовы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (аўтара „Пінскай шляхты”), пасяліўся некалькі гадоў таму ў Альхоўцы. Ён — пенсіянер, прыехаў сюды з Кракава, дзе шмат гадоў працаваў у тамашнім цэнтры тэлебачання. На выставе паказаў мініяцюрныя пейзажы, зробленыя на бярозавай драўніне:

— Вялікія формы таксама спрабаваў я маляваць, але вельмі цяжка і адымае шмат часу. Такую мініяцюрку раблю практычна ў адзін дзень. Гэтая ваколіца — мае натхненне. Як толькі прыехаў я сюды амаль пятнаццаць гадоў таму, яна заваражыла мяне, так тут прыгожа. Маё сэрца заўсёды цягнула на Усход. Дарэчы, толькі тады, калі я перасяліўся сюды, упершыню я паехаў у свае родныя бакі ў Беларусь, менш за 60 км ад Мінска, адкуль маёй сям'і ў 1945 годзе загадалі з'ехаць. Займаюся гаспадаркай. Часта шпацырую. Убачу штосьці тут, там, і тое ўсё адлюстроўваю з памяці. Толькі тады, калі я пасяліўся тут, пачаў займацца мастацтвам.

Пад апекай гарачай прыхільніцы гісто-

працяг ☞ 11





# Подлая вайна

Яшчэ тады, калі расійскія прапагандысты смела гледзячы ў вочы шматмільённай аўдыторыі айчынных тэлегледачоў сцвярджалі, што аніякіх расійскіх зялёных чалавечкаў у Крыме няма і быць не можа, у сацыяльных сетках ужо мільганула назва новага вайсковага канфлікту — самая подлая вайна. Аўтар гэтай назвы даводзіў, што былі ўжо войны назваными самай крывавай, самай доўгай, самай жорсткай... Шмат іх было. І ўсе яны больш ці менш адпавядалі сваім назвам. Але гэтая вайна, калі яе назавуць самай подлай, будзе адпавядаць назве цалкам. На ўсе сто працэнтаў.

На днях вайна на Украіне зноў паказала свой звярыны выскал. Узмацніліся баі за данецкі аэрапорт, ці дакладней за кавалак выпаленай зямлі, на якім той аэрапорт зусім нядаўна вабіў вочы пасажыраў сваёй веліччу, паляцелі баявыя зарады ў жылыя кварталы і грамадскі транспарт, быў абстраляны мірны Марыупаль. Нібыта для вайны нічога новага. Стралялі па гарадах ды гаражанах і раней. Стралялі. Толькі вось заўсёды казалі хто і навошта. Апраўдвалі свае дзеянні, хай сабе часам і не ўдала, але стараліся апраўдаць вайсковай мэтазгоднасцю, вялікімі або надуманымі ідэямі ці нават банальнай помстай некаму за нешта. Зараз жа поўнае маўчанне з боку аднаго ўдзельніка канфлікту, Расіі. Нібыта зноў нейкія там чалавечкі завяліся, толькі невядома ўжо якога яны колеру.

Нават тэрарысты пасля тэрактаў бяруць на сябе адказнасць і заяўляюць, для чаго, на іх думку, было здзейсненае злачынства. Тут жа поўнае інкогніта. Маўляў, здагадайцеся самі. Расія там ваюе з невядома кім, ці ўкраінцы паміж сабою, ці добраахвотнікі з добраахвотнікамі... Крамлёўскія агітатары сказалі ж, што гэта дзясяткі тысяч апалчэнцаў. А далей дадумвайце самі.

Але подласць гэтай вайны бачна і ў гэтых агучаных дзясятках тысяч апалчэнцаў. Сярод рускіх удзельнікаў — ці будуць гэта казакі, ці адпускнікі, ці добраахвотнікі ці як бы іх там яшчэ не называлі крамлёўскія прапагандысты — няма блізкіх і родных сённяшніх высокапастаўленых асоб Расіі, у сілах якіх тую вайну спыніць. Так было і ў чачэнскіх войнах, і ў прыднястроўскім канфлікце, і ў расійска-грузінскай вайне... Ваяваць ідуць дзеці іншых грамадзян. Хіба ў гэтым і закладзеная не толькі подласць, але і мажлівая бясконцасць і маштабнасць гэтай вайны, бо яе актывізацыю або спыненне вырашаюць адны, а ваяваць мусяць другія, такія далёкія ад тых першых, як і тыя першыя недаступныя для другіх. Яны, першыя, аддаюць перавагу патрыятызіраванню на цёплых і ўтульных крэслах у зале Дзяржаўнай Думы. А іх дзеці знаходзяцца на замежных курортах або ў офісах сваіх нябедных фірм. Ім асабіста, як яны думаюць, небяспека непасрэдна не пагражае.

У свой час войска ўзначальвалі і ішлі ў бой першымі самі кіраўнікі краін — князі ды цары. А побач з імі іх сыны, якім за гонар было ісці першымі. У шчырасць пачуццяў такіх ваяроў можна і паверыць. Ды і ў нядаўнія часы дзеці кіраўнікоў краін прымалі непасрэдны ўдзел у баявых дзеяннях. Калі казаць па зразумелых прычынах пра Расію то нават дочкі апошняга імператара пайшлі на фронт перавязваць параненых салдат. І гэта натуральна, калі сям'я кіраўніка краіны пакутуе з усім народам. Тады ёсць хоць маленькае спадзяванне, што кіраўнік сто разоў падумае, перш чым пачынаць вайну. І нават у такога крывавага кіраўніка як Сталін сыны мусілі быць на перадавой. І, як вядома, адзін з іх не вярнуўся з нямецкага палону. Што ўжо казаць пра дзяцей, прыкладам, англійскага каралеўскага двара, якія па традыцыі здаўна і па сённяшні дзень выбіраюць вайсковыя спецыяльнасці і ў разе чаго будуць вымушаныя непасрэдна пагля-дзець у вочы ваеннай жудасці. І так робяць не толькі прадстаўнікі англійскай эліты. Іншыя таксама. Але гэта не пра сённяшніх супрацоўнікаў Украіны.

Вось толькі яны з-за сваёй надуманай беспакаранасці не могуць аніяк зразумець, што так бясконца быць не можа. Яны ж таксама загінуць у гэтай мясарубцы. Гісторыя гэтаму сведка. Хай сабе ў канцы загінуць, пасля падманутых імі прыстойных людзей. Але нікуды яны не ўцякуць. Колькі б воўк не валок, павалакуць і воўка. Ну а прыстойныя людзі пацерпяць за тое, што дазволілі сябе абдурыць, і своечасова не спынілі подласці.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Перамагчы рэфлекс малюска



Тое, што частка правых і каталіцкіх грамад падвяргае грубому ганенню Юрку Оўсяка, гэта адно. Кіруючы такім вялікім, відным грамадзянскім праектам, як Вялікі аркестр Несвяточнай жа ж, а Штодзённай дапамогі, можна перашчыраваць. Гэта не датычыць самога Юркі Оўсяка, якога незвычайная энергія прыводзіць у рух гэтую вялікую машыну на працягу ўжо 23 гадоў. Стомленыя ад яго пастаяннага поспеху польскія зайздроснікі, пачынаючы ад прыродных крывадушнікаў, незадаволеных і гадкіх цынікаў, і заканчваючы ашалелымі дэбіламі. Затое гэтае другое — для мяне проста незразумелае — гэта нахабная крытыка ідэі Аркестра і гэтага ўнікальнага ў свеце зруху, які ён натхняе: даверу, спачування і салідарнасці мільёнаў донараў, дзясяткаў тысяч добраахвотнікаў, занятых і беспрацоўных, простых людзей, сялян і фізікаў, палітычнай і інтэлектуальнай эліты і бяздомных валацуг, дзяцей і старых, мужчын і жанчын, гетэра- і гомасексуальных католікаў, праваслаўных, атэістаў, веласіпедыстаў... Карацей кажучы: ідэі, якая вышэй над чалавечую нікчэмнасць, над эгаізм і напышлівасць. Толькі што найбольш гадскія чалавечыя рысы гоняць да шкоднага дзеяння разлютаваных ворагаў Оўсяка і яго Аркестра. Параўнанне іх да асляплых ад нянавісці талібанаў гэта недастаткова; да ісламскіх фундаменталістаў — недастаткова. Яны такія, якія ёсць... яны падлюгі! Калі паявіцца самая малая прычына для турботы з-за надзейнасці і сумленнасці Оўсяка, замест таго, каб гэта высветліць, што і як, чаму, адразу ж кідаюць на яго брудныя паклёпы. Калі ў аркестравай машыне пачуецца найменшы дысананс, яны адразу ўбачаць там маральны беспарадак, растрату і махлярства. Калі так далей пойдзе, удзельнікі і дырыжоры Аркестраператвораць яго ў крэпасць. Замест раздаваць чырвоныя сэрцайкі, выйдуць на вуліцы гарадоў з... плявальніцамі. Не да дабра гэта ідзе.

Але, давайце пакінем галашэнні малым вагражэнькам вялікай ідэі і яшчэ большай працы шчодрых мільёнаў грамадзян. Заглянем у іншую бочку, хоць з таго ж боку рэчаў... XX стагоддзе, заплямленае братазабойчымі войнамі, рэлігійнымі разнямі і ідэалагічнымі экстрэмізмамі, пастаянна сцякае на паверхню сучаснасці трупнымі ядамі нацыяналізмаў, розных формаў расізму, шавінізму, ксенафобіі і ўсіх відаў фундаменталізмаў. Гэты працэс становіцца ўсё больш і больш адчувальным у сваіх праявах, і не толькі ў пуцінскай Расіі, у Францыі, ці Польшчы. Здаецца, што ён носіць глабальны характар. Сёння мы яшчэ не ў змозе зразумець дынаміку гэтага працэсу, але не толькі яго прычыны, бо іх можна лёгка выявіць і праанылізаваць, колькі перадумовы прычын яго ўзнікнення. Для гэтага неабходна даўжэйшая перспектыва часу. У рэшце рэшт мы бачым, што свет ахапіла невытлумачальная трывога, якая прыводзіць да фундаменталізацыі адносін людзей і закрывання грамадстваў у абаронных крэпасцях. Прыгадвае гэта рэфлекс напалоханага малюска, які зачыняецца ў крохкай крэпасці сваёй шкарлупіны...

Лянівы геданізм Еўропы, які прыводзіць да катастрафічнага скарачэння колькасці насельніцтва сваіх народаў, прымусіў іх адкрыцца на міграцыю чужых па ментальнай рысе нацый. Сёння, калі вядома, што большасць ізноў прыбылых з радасцю прыняла грамадзянства Еўропы, але ніколі не адмовілася ад сваёй культурнай і антыеўрапейскай спадчыны, ідэя дэмакратыі, прадстаўляючая статускво еўрапейскай ідэнтычнасці, моцна разгайдалася. Еўропа, свет у рэфлексе малюска, замыкаецца ў дысфункцыянальных нацыяналізмах і прымітыўных фундаменталізмах. Толькі што гістарычны вопыт, прыведзены ў прыкладзе камуністычнай Албаніі ці сталінскай Польшчы, вучыць, што кожнае ідэалагічнае закрыццё прыводзіць да дысфункцыянальных скажэнняў і ментальнай распусты. Дык ці маем зачыніцца, як старажытныя траянцы, у мурах свайго горада і адважна іх абараняць пакуль хопіць духу перад ахайскай навалай, ці адразу адкрыць вароты, маючы на ўвазе эпілог гамерычнага аповеду, у якім паяўляецца траянскі конь і беспаваротнае разбурэнне іліёнскай цывілізацыі? Асабіста я прыхільнік адкрыцця, дыялогу, аднак, не свабодны я ад атавістычнага імпульсу малюска. Так, атавістычнага! Ці гэта асноўная прычына непазбежнага краху ўсіх чалавечых цывілізацый?

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# За межамі мейнстрыму

«Прагулка па пракладзенай дарожцы. Аб сустрэчах беластачан з культурай» — пад такім загалоўкам толькі што выйшла вельмі цікавая кніга даследаванняў пяці сацыёлагаў з няўрадавага фонду Лабараторыя даследаванняў і сацыяльных дзеянняў «SocLab». Змяшчае яна прэзентацыю вынікаў даследавання культурных прапаноў і ўдзельніцтва ў культуры на тэрыторыі падляшскай сталіцы. Аўтары спрабавалі адказаць з якой культурай найбольш ахвотна кантактуюцца беластачане, якія спадзяванні маюць яны ў дачыненні да культурных прапаноў горада, або, як на чаканні жыхароў рэагуюць установы культуры і іншыя арганізацыі, якія ўтвараюць гэтую прапанову. Прафесар Універсітэта ў Беластоку Ян Паляшук у рэцэнзіі на публікацыю напісаў: «З прадстаўленых у кнізе вынікаў даследаванняў узнікае вельмі цікавая і інтрыгуючая карціна сустрэч беластачан з культурай. Цікавая яна таму, што Беласток з'яўляецца спецыфічным горадам, таму што была перарвана яго гістарычная пераемнасць, якая ў іншых гарадах выяўляецца ў беспералынасці архітэктуры, перадачы традыцый, узнаўленні сацыяльнай структуры і яе культурнай супольнасці. Інтрыгуючым таму, што працэсы стварэння культуры, у адносна нізкай ступені, з'яўляюцца сведчаннем сацыяльных перамен, якія за апошнія некалькі дзесяцігоддзяў уфармавалі гарадскую супольнасць Беластока, яго ідэнтычнасць, культурныя ўстановы, прасторавае размяшчэнне, формы культурнай актыўнасці».

Асабліва мяне ў гэтай працы зацікавіў вывад сацыёлагаў: «Часам з'яўляюцца галасы ўдзельнікаў культуры, якія адносяцца да нацыянальных, этнічных, рэлігійных меншасцей, якія даюць падставу для суджэння, што меншасныя мерапрыемствы цалкам слаба распазнавальныя і змяшчаюць іх па-за «галоўнай плынню» беластоцкай культуры. Яны разглядаюцца як прызначаныя меншаснаму асяроддзю, накіраваныя на вузкую аўдыторыю, што прымаецца адным з суб'ектаў апытання з нейкай заклапочанасцю: «Вядома, нельга (культурных ініцыятыў меншасцей) забараняць». Варта падкрэсліць, што апісаная маргінальнасць выказваннаў датычных меншасцей кантрастуе з колькасцю сродкаў, расходаваных у мэтах прамоцыі Беластока як горада многіх культур».

Аўтары даследаванняў крыху месца адвялі часта ўздымана у публічных дэбатах мультыкультуралізму Беластока, на які неадна́йчы спасылаліся як на яго багацце. Яны прыйшлі да высновы: «Мультыкультуралізм разглядаецца большасцю (асабліва стваральнікамі культурных прапаноў, але і ўдзельнікамі культуры), як штучнае тварэнне, створанае прамацыйна і не маючае шмат супольнага з рэальнасцю». Як гэта назваў адзін з рэспандэнтаў, «мультыкультуралізм і студэнцкі горад — два глупствы. Студэнты не сіла, якая магла б падганяць культуру, таму што прыязджаюць сюды і толькі даведваюцца аб гэтай культуры. Мультыкультуралізм — страшны лозунг, які развалкоўваюць невядома чаму». Далей сацыёлагі дадаюць: «У інтэрв'ю як з прадстаўнікамі ўстаноў культуры, так і няўрадавых арганізацый можна заўважыць, што мультыкультуралізм з'яўляецца ў поўным сэнсе вычарпаны і мала цікавы. Мультыкультуралізм, паводле рэспандэнтаў, часта вядзе да паказвання культурнай разнастайнасці ў традыцыйны, кансерватыўны спосаб. Хоць, як кажа адна з рэспандэнтак, «цікавая лакальнасць распрацаваная ў поўны спосаб» не вельмі часта з'яўляецца аб'ектам такога творчага працэсу, а ў якасці прыкладаў у гэтым кантэксце цытуе пааcобныя дзеянні. У размове аб мультыкультуралізме зрэдку паяўляліся думкі ацэньваючыя сучасную разнастайнасць і новую з'яву мультыкультуралізму, якая разумеецца як разнастайнасць ладаў жыцця. Хоць і былі спасылкі на беластоцкіх яўрэяў ці даўні Беласток, у якім культурная і рэлігійная разнастайнасць былі больш прыкметнымі, у той жа час акцэнтаваны былі заўвагі, што сучасная ідэнтычнасць горада мае мала агульнага з мінулым.

Аўтары, спасылаючыся на меркаванне рэспандэнтаў, заўважылі таксама: «Было таксама падкрэслена, што падтрымка маркетынгавай стратэгіі горада мультыкультуралізмам не з'яўляецца ані арыгінальнай, ані эфектыўнай ідэяй. З іншага боку, аднак, сярод удзельнікаў культуры паяўляецца як клішэ думка пра мультыкультуралізм як добры турыстычны прадукт, больш цікавы для старонняга, чым для жыхароў. Мультыкультуралізм як рэальны патэнцыял, а не нейкае клішэ, з'явіўся ў кантэксце адносін з краінамі Усходняй Еўропы: «Мы прывыклі да яго, што акаляе нас сапраўды той мультыкультуралізм, але калі хтосьці прыязджае, у каго няма таго кожны дзень, дык гэта даволі дзіўнае і можа яму прадстаўляць цікавасць, і мы можам нейкім чынам змяніць гэта, замест саромецца, што ў нас ёсць нейкія кантакты з Беларуссю, Літвой і з усходняй сцяной, каб гэта ператварыць у станоўчае, каб гэта нейкім чынам працавала на нашу карысць».

Спасылкі на культуру нацыянальных меншасцей і мультыкультуралізм — сапраўды адны з многіх матываў выдання, якое налічвае больш за 150 старонак. Навукоўцы, вядома, засяроджаны на пошуку і апісанні фактаў культуры ў Беластоку, а не на знаходжанні прычын апісваных з'яў. Тым не менш, гэта вельмі каштоўнае чытанне. Я заахвочваю пазнаёміцца з кнігай усіх зацікаўленых, асабліва тых, што суствараюць вобраз культуры Беластока (яна даступная на сайце http://www.soclab.org.pl/). Цікава, ці зробяць з яе высновы асноўныя яе адрасаты — чыноўнікі, адказныя за беластоцкую культурную палітыку, якія яшчэ не ўзяліся за распрацоўку якой-небудзь культурнай стратэгіі горада, у тым ліку ў яго полікультурным характары, да чаго я неаднойчы намаўляў іх на старонках «Нівы», па прыкладзе Кракава ці Любліна, на што таксама звяртаюць увагу сацыёлагі з фонду «SocLab».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Шматлюдна славілі Хрыстовае Нараджэнне

**«Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай»** — маштабнае музычнае мерапрыемства, якое ладзіцца ў Гайнаўцы яшчэ з дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Спачатку дзеткі і моладзь Гайнаўшчыны славілі Хрыстовае Нараджэнне ў Гайнаўскім белліцэі, дзе суарганізатарамі калядавання былі гайнаўскі гуртос БГКТ і Гайнаўскі дом культуры. Пасля мерапрыемства сталі ладзіць у ГДК. Ужо больш дзесяці гадоў арганізуюць іх Дэканальны інстытут праваслаўнай культуры з Гайнаўкі, Гайнаўскі дом культуры, Аб'яднанне «Любіцелі царкоўнай музыкі» з Гайнаўкі і іншыя прыхільнікі калядавання. Яго ідэя — ангажаваць дашкольнікаў і вучняў у развучванне калядак, з якімі пасля выступаюць яны на сцэне. Да дзетак і моладзі далучаліся прыхадскія хары, мясцовыя вакальныя калектывы. Пастаянна павышаўся мастацкі ўзровень выконваных калядак. Калі ў ГДК пачалі прыязджаць каляднікі з Рэспублікі Беларусь, а раз нават даехалі калядоўшчыкі з Украіны, мерапрыемства пераўтварылася ў міжнародны агляд. Сёлета «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай» таксама былі мнагалюднымі і праходзілі ў Гайнаўскім доме культуры ажно на працягу чатырох дзён, з 14, па 17 студзеня. Перад публікай выступілі 29 выканаўцаў, разам каля 570 чалавек. Калядоўшчыкаў на сцэну ўводзіла Снягурачка. Усе выканаўцы, дзякуючы шчодрым спонсарам, атрымалі ад Дзеда Мароза падарункі, а пераможцы — узнагароды ў час гала-канцэрта.

— Падчас сустрэч з праваслаўнай калядкай калядуюць прадстаўнікі трох пакаленняў. Такім чынам мы вяртаемся да нашых традыцый, калі па нашых вёсках калядавалі дзеткі і моладзь. Слухаючы калядкі, мы захапляемся іх духоўнай прыгожасцю і знаёмімся з падзеямі перыяду Божага Нараджэння. Зараз, калі штораз менш дзетак і моладзі калядуе ў Гайнаўцы, людзі прыходзяць у наш дом культуры, каб паслухаць калядаванне са сцэны, — сказаў галоўны арганізатар калядных сустрэч протаіерэй Павел Стэрлінгаў, дырэктар Дэканальнага інстытута праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы.

Конкурсныя калядаванні пачаліся з выступаў дашкольнікаў і наймалодшых вучняў. Прывозілі і прыводзілі іх бацькі або бабулі і дзядулі, паколькі слуханні пачыналіся яшчэ ў працоўны час і тады ў канцэртнай зале Гайнаўскага дома культуры было асабліва шматлюдна. На сцэну ўводзілі дашкольнікаў іх настаўніцы і яны або нехта ад бацькоў выносілі звёздачкі і паказвалі іх прыгожасць. Дзеткі апранутыя былі ў прыгожыя святочныя ўборы. Раней доўга яны развучвалі калядкі, каб як мага найлепш паказацца перад публікай. Дашкольнікі выступалі займальна, захапляючы сабраных сваім спевам, шчырасцю і адкрытасцю, калі пыталі ці можна закалядаваць. Пасля праспявання калядак наймалодшыя выканаўцы жадалі публіцы ўдала і з добрым здароўем правесці распачаты новы год.

— Дашкольнікі захапляюць шчырасцю выступаў. Паглядзіце, у якіх прыгожых касцюмах яны выступаюць. Раней дашкольнікі прэзентаваліся ў сваёй вопратцы, а пасля ў прадшколлях пашылі ім адмысловыя ўборы, — заявіў протадыякан Марк Мацюка, дырыжор маладзёжнага хору Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, які дабіўся перамогі ў катэгорыі прыхадскіх хароў.

Вучні пачатковых, гімназічных і звышгімназічных школ выканалі даўнія і сучасныя калядныя творы пад акампанемент. Конкурсная камісія (протаіерэй Мікалай Беламызы, іерэй Павел Коршак, Ірыней Лаўрашук), якую ўзначальваў гайнаўскі дэкан, мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч, перш за ўсё звяртала ўвагу на мастацкі ўзровень выступленняў, але таксама на падборку і складанасць выканання калядак, на спосаб акампанементу, калі той быў, і на выгляд каляднікоў і звёздачак. Беларускі калектыў «Званочкі» Гайнаўскага дома культуры, які вядзе былая настаўніца дашкольнага выхавання Вера Масайла, зрабіў стаўку на вяртанне да традыцый і прыгожа запрэзентаваўся ў зімовай вопратцы і з прыгожай звёздачкай. Калядоўшчыкі са «Званочкаў» трымалі ў руках кошычкі са святочнымі харчамі.



«Званочкі» — калякты ў Прадшколла № 3 у Гайнаўцы



Беларускі калектыў «Званочкі» Гайнаўскага дома культуры



Беларускі вакальны калектыў «Зьічка» Гайнаўскага белліцэя і музычны кіраўнік Бажэна Ляўчук

— Мы стараемся выступаць з рознымі калядкамі. Сёлета калядавалі ўжо на аглядзе ў Беластоку. Плануем выступіць яшчэ на аглядзе ў Дубінах. У калектыве «Званочкі» займаюцца дзеткі і моладзь, пачынаючы з дашкольнікаў, а канчаючы на гімназістах, — сказала Вера Масайла.

Штогод з цікавымі калядкамі і на высокім мастацкім узроўні прэзентуюцца гайнаўскія і бельскія белліцэісты. Занялі яны раўнапраўныя першыя месцы ў катэгорыі звышгімназічных школ. Бельскія белліцэісты са школьных беларускіх калектываў «Спадчына» і «Вянок» саставілі хор і ўдала выступілі пад наглядам музычнага інструктара Іаанны Хількевіч. Беларускі вакальны калектыў «Знічка» Гайнаўскага белліцэя ў гэтым годзе будзе адзначаць 20-годдзе сваёй дзейнасці і першае месца падчас каляднага агляду з'яўляецца першай перамогай у юбілейным годзе.

— Мы пастаянна выступаем падчас калядных сустрэч. Кожны выступ з калядкамі — гэта новы досвед, бо нішто не адбываецца два разы так сама. Асноўны наш рэпертуар — свецкія беларускія песні. Мы пачалі ўжо рыхтавацца да фестывалю «Беларуская песня», — сказала Бажэна Ляўчук, музычны кіраўнік «Знічкі».

Удзельніца «Знічкі» Мілена Савіцкая пахваліла атмасферу ў калектыве, з якім выступае пяты год. Белліцэістка з гэтага гурта Марыя Краўчык з Вітава сказала, што калядавала таксама ў сваёй вёсцы, дзе каляданне ўжо знікае.

— Мы, моладзь з Гайнаўкі, сабраліся і калядавалі ў нашым горадзе, але зараз калядоўшчыкаў у Гайнаўцы штораз менш. Я рада, што спяваю ў «Знічцы» і маладзёжным хоры пры Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы, — гаварыла гайнаўская белліцэістка Дар'я Шыманюк са «Знічкі», старшыня гайнаўскага гуртка Брацтва праваслаўнай моладзі. Арганізаваць калядныя сустрэчы дапамагала менавіта моладзь з брацтва.

Гайнаўскія белліцэісты і вучні Комплексу прафесійных школ у Гайнаўцы падрыхтавалі святочныя падарункі. Пасля, пераапранутыя за Дзеда Мароза, дорылі іх калядоўшчыкам.

— Я штогод выступаю ў калядным аглядзе, пачынаючы з дашкольнага часу. Я рады, што можам славіць Хрыстовае Нараджэнне перад шматлюднай публікай. Дзеля падтрымання традыцый мы з сямейнікамі калядавалі таксама ў Дашах, — сказаў белліцэіст Дам'ян Маркевіч, адзін з двух хлопцаў, што спяваюць у «Знічцы».

Музычны кіраўнік калектыву чыжоўскага гуртка Саюза пенсіянераў і інвалідаў «Верасы» Ірэна Лукашук удакладніла, што гурт выступае ў Гайнаўцы з праваслаўнымі калядкамі другі раз і прэзентуе перш за ўсё традыцыйныя калядныя творы.

— Мы ахвотна спяваем калядкі і славім Хрыстовае Нараджэнне падчас сустрэч ладжаных у ГДК, бо гэта вяртанне да нашых традыцый, — сказалі харысты гайнаўскага беларускага хору «Рэха пушчы» і іх музычны кіраўнік Аліна Негярэвіч.

Запланаванае было таксама выступленне беларускіх студэнтаў з Мінска, але тыя не змаглі даехаць.

Пасля падвядзення вынікаў конкурснага агляду былі вылучаны пераможцы, якія выступілі падчас гала-канцэрта і тады атрымалі ўзнагароды.

У катэгорыі дашкольнікаў I месца занялі дзеткі з прадшколля № 9 «Лясная палянка» ў Бельску-Падляшскім, на другім месцы апынуліся дзеткі з Прадшколля № 1 у Гайнаўцы, трэцяе месца занялі дашкольнікі з Прадшколляў № 2 і № 5 у Гайнаўцы, а вылучэнне атрымалі дзеткі з Прадшколля № 3 у Гайнаўцы.

З ліку вучняў падставовых школ і гімназій першае месца заняў калектыў «Гіп-Топ» Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы, другой узнагароды камісія не прызначыла, а трэцяе месца занялі «Вясёлыяноткі» Непублічнай пачатковай школы ў Арэшкаве і «Лясныя ноткі» Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы.

У катэгорыі вучняў звышгімназічных школ першае раўнапраўнае месца занялі Беларускі вакальны калектыў «Знічка» Гайнаўскага белліцэя і хор Бельскага белліцэя.

Сярод фальклорных груп калядоўшчыкаў першае месца заняў украінскі калектыў «Ранок», што дзейнічае пры Бельскім доме культуры, другое месца камісія прыдзяліла калектыву «Дабрына» з Беластока, трэцяе месца занялі Беларускі калектыў «Званочкі» Гайнаўскага дома культуры і Беларускі калектыў «Жаваранкі» з Махнатага, а вылучэнне атрымаў калектыў «Верасы» з Чыжоў.

У катэгорыі прыхадскіх хароў першае месца заняў Маладзёжны хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, на другім месцы апынуліся Маладзёжны хор Прачысценскага прыхода ў Бельску-Падляшскім і хор «Гармонь» Праваслаўнага прыхода ў Ласінцы, трэцяга месца камісія не прыдзяліла, а вылучэнне атрымалі Дзіцячы хор Прыхода нараджэння Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы і хор Праваслаўнага прыхода ў Арэшкаве.

Сярод выканаўцаў з дамоў культуры першае месца заняла Студыя песні Гайнаўскага дома культуры, на другім месцы апынуўся калектыў «Астэрыя» Праваслаўнага дома культуры ў Бельску-Падляшскім, а трэцяе месца заняў Беларускі хор «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры.

У катэгорыі іншых груп калядоўшчыкаў другое раўнапраўнае месца занялі каляднікі з Майстар-класаў па заняткавай тэрапіі ў Гайнаўцы і са Спецыяльнага адукацыйна-выхаваўчага асяродка ў Гайнаўцы.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Традыцыя ў Ляўкове

У Стараляўкоўскім прыходзе традыцыя калядавання не загіне. 30 снежня 2014 года ў святліцы ў Старым Ляўкове Гайнаўскага павета арганізавалі вечар спявання калядак. Такога роду мерапрыемства традыцыйна ладзяць ужо чатырнаццаць гадоў.

У аўторак вечарам у святліцы сабраліся дарослыя і дзеці з шасці салэцтваў. Запрасілі настаяцеля прыхода а. Леаніда Янкоўскага, царкоўнага старасту Уладзіміра Сухадолу з Падляўкова і членаў царкоўнага хору. У куце ўсіх радавала прыгожа ўбраная ёлка.

Найперш дзеці і моладзь дэкламавалі вершы пра Раждаство Хрыстова ды спявалі калядныя песні. За прыгожы выступ і падтрымку традыцыі святкавання Раждаства Хрыстова і калядавання падзякаваў ім а. Леанід. Ён расказаў пра гісторыю свята, зычыў усім здароўя і шчасця ў Новым годзе ды прыемнага сямейнага святкавання.

Пасля ўсе — больш паўсотні чалавек — частаваліся традыцыйнымі поснымі стравамі. На стале ўвесь час гарэлі свечкі. Перад пачастункам прысутныя згаварылі малітву „Отче наш" ды падзяліліся просвіркай і аплаткай. Панавала цёплая сардэчная атмасфера. Паспяваць калядкі з прыгожай новай гвяздай прыйшоў мясцовы мастацкі калектыў „Цаглінкі". Здымкі рабілі Юрый Равінскі са Старога Ляўкова і Ян Здаsuccеўскі з Плянты. Цікава было пабываць на вечары, навучыцца слоў калядак. Зараз амаль усе мелі кніжачкі з калядкамі. Айцец Леанід вельмі сардэчна падзякаваў Крыстыне Паскробка — кіраўнічцы святліцы, Галене-Марыёлі Рэент — дырэктарцы Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы, Альжбеце Кунцэвіч — старшыні лешуцка-міжнаўскага таварыства „Ятрышнік", Аліне Барташук, Вользе Максімюк і Анне Стульгіс за падрыхтоўку вечара калядак.

**(Я. Ц.)**

## Сыты галоднага не разумее

У палове снежня я занядужаў. Ногі адмовіліся падпарадкоўвацца. Левы бок (з ног да галавы) стаў амярцвелым. 20 снежня я выклікаў хуткую дапамогу. Доўга не чакаў. Ратаўнік медычнай службы, зрабіўшы абязбольваючы ўкол, сказаў: „Паводле майго дыягназу гэта, мабыць, паяснічна-крыжавы радыкуліт (рва кульшова) або трамбоз (закшэпіца). Неабходны антыбіётык. Мы рэцэпта не пішам. Трэба падацца да сямейнага лекара".

Я не мог варухнуцца з месца. Гэта было ў суботу на адвячорку. У панядзелак зранку я патэлефанаваў у асяродак здароўя і патлумачыў лекару ў чым праблема. Лекар, выслухаўшы мяне, запісаў лякарства. Калі дачка прывезла лекі, дык выявілася, што гэта не антыбіётык, толькі абязбольваючыя ўколы і таблеткі. Тут жа я атрымаў першы ўкол, які зрабіла медсястра з амбулаторыі. Меры, якія прымяняў я адпаведна лекарскаму ўказанню, не дзейнічалі. Гаварыў я аб гэтым медсястры, якая рабіла мне ўколы. Праз тыдзень падаўся я ў гмінную амбулаторыю. Сямейны лекар быў у водпуску. Яго намеснік, паглядзеўшы балячую нагу, запісаў іншае лякарства, паводле свайго дыягназу. І гэтыя не памаглі. За чарговым разам лекар, выслухаўшы, што лячэнне дагэтуль аказалася неэфектыўным, накіраваў мяне на хірургічнае абследаванне. Там я атрымаў рэцэпт на чарговыя медыкаменты, поўнасцю платныя. Калі я асмеліўся намякнуць медыку-спецыялісту, што безвынікова выдаю на лякарства шмат грошай, дык лекар запытаў проста:

— Курыце?
— Не.
— П'еце гарэлку?
— Не.
— Дык на лякарства грошы маеце !..

Вось, даражэнькія, як медыкі ставяцца да пацыента. Нездарма ў народзе кажуць: „Сыты галоднага не разумее". Святая праўда.

**(ус)**




Кулінарныя вандроўкі ў часе і прасторы

■ Малгажата і Гжэгаж Чарвінскія

# Белагорская цывілізацыя

Водгук на прапанову спаткання прыходзіць э-мейлам на чыстай беларускай мове. Піша мне Гжэгаж Чарвінскі — літаратуразнаўца, доктар гуманітарных навук, працаўнік Універсітэта ў Беластоку.

Гутарым за кубкам пахучай, надта смачнай мелісы з прысядзібнага агародчыка і надзвычай араматнай, дзіка растучай вербаўкі — па-сібірску званай Іван-чаем.

Гданьшчанка Малгажата Сыльвэстшак і сувальчанін Гжэгаж Чарвінскі аб'ехалі кусок Польшчы і свету ў пошуках свайго кутка. Яна думала пра Бяшчады, гарбатыя Мазуры, ён — пра польска-беларускае памежжа. Ваша шчасце знайшлі ў ціхіх падкрынскіх Белагорцах. Захапіліся тутэйшай прыродай і шматкультурнасцю.

— Гэтыя, у нейкім сэнсе законсерваваныя вёскі ствараюць якасныя ўмовы для існавання, — матывуе свой выбар Гжэгаж. — Культурны маналіт мяне не цікавіць. Затое лёгка магу ўпісацца ў адкрытую для абсалютна ўсіх шматкультурнасць. Культурны круг усходняй славяншчыны для мяне асаблівa блізкі і прывабны. Праўда, Белагорцы гэта не Расія ці Беларусь, але тут таксама ёсць нешта ўсходняе.

Маладое сужонства ўжо чацвёрты год смакуе жыццё за старой кухоннай плітой. Крыху падношаная, але яшчэ працуе. Дзень у дзень корміць і забяспечвае цёплай вадой сваіх новых гаспадароў. Зімой добра пры ёй пагрэцца, творча папрацаваць, пакуль на прысунутых ложках, а ў будучыні, калі знойдуцца грошы, на прыстойнай ляжайцы. Пліце неабходныя дровы. Іх трэба набыць, прывезці, парубаць, недзе паскладаць, потым насіць іх дахаты. Справа складаная, асабліва тым, якія выхаваліся ў горадзе. Але ж Малгажаце і Гжэгажу гэта агульнавядомая „булка з маслам", асабліва пасля выпрабаванняў лёсу ў далёкай Сібіры.

— Любая страва, звараная ў жары кухоннай пліты, мае непаўторны смак, — запэўнівае маладая гаспадыня.

— Але найвялікшым тут сакрэтам з'яўляецца хлебная печка. Там пячэцца не толькі жытні хлеб, але таксама раскошная піца. За піцу з печкі, апальванай дровамі, у горадзе трэба нямала заплаціць, а ў нас усё гэта дарма, — хваліцца Гжэгаж.

**— Ці ежа гэта цывілізацыя?**

— У сэнсе культурнага развіцця напэўна так, — мяркуе Гжэгаж. — Маю на ўвазе толькі добрую, якасную ежу. Тут здабываем яе невялікім коштам. У цяперашнім часе спажывання невядома чаго мы ў сваім агародзе збіраем такія плады, якіх у краме не дастанеш. У наш агарод трактар не ўязджае. Туды ўваходзіць толькі чалавек і то не кожны. Агарод — частка натуры, але тое, што з'яўляецца на стале — гэта ўжо справа культуры і цывілізацыі. Цывілізацыя не заключаецца ў цудах тэхнікі. Цывілізацыя — гэта якасць жыцця. Тут яно на самым высокім узроўні. Бадай нідзе няма так добра, як тут.

— Прошлай вясной, — гаворыць Малгажата, — мы адкрылі для сябе луг. Колькі там карыснага і смачнага расце! Вельмі спадабаліся нам маладыя сцёблы лопуху, смажаныя ў соевым соўсе. Прыемна хадзіць туды, збіраць, а потым гэта ўсё варыць і есці. Цяпер луг для нас гэта ўжо не звычайная трава ці кусты, мы бачым там канкрэтныя, смачныя стравы.

— Любім смачна з'есці, — прызнаецца Гжэгаж, — і ўжо навучыліся адрозніваць якасць ежы. Прывыкшы да нечага добрага, цяжка вярнуцца да кепскага. Гэта тычыцца, між іншым, хлеба. Калі прыходзіцца купляць яго ў крынскай краме, страшэнна пакутуем, пакуль нешта ядомае выберам. Бяда, увойдзеш у смак добрага харчу, а вядома, усяго сам не наробіш. Усё-такі найлепш разлічваць на ўласныя магчымасці.

**— Культурная і кулінарная тоеснасць...**

— Напэўна ў тым ёсць нешта супольнае, — думае Гжэгаж. — У нашым выпадку гэтыя тэрміны суправаджаюцца. Штодзень карыстаемся кулінарнымі рэцэптамі цэлай Еўразіі. Сёння можам есці боб пад соўсам ціка масала, а заўтра пячы лопух у кунжутным алею, есці бліны ці піцу. Наша тоеснасць размываецца, харчуемся тым, што нам падабаецца.

**— Ці звяртаеце ўвагу на мясцовую кухню?**

— Мясцовыя не падзяляюць нашых кулінарных поглядаў, — кажа Малгажата. — Не толькі не карыстаюцца яны дабрадзействамі дзіка растучай расліннасці, але здзіўляюцца, калі ў агародзе сеем боб. Старэйшае пакаленне помніць яшчэ галодную пару, калі мяса — найвялікшы далікатэс — гасцявала на стале толькі некалькі разоў у год. А мы свядома замест мяса выбіраем боб.

— Справа ў сучасным, кулінарным убостве, — аб'ясняе Гжэгаж. — З пасляваеннага часу кухня пачала губляць свой першапачатковы характар. Штораз больш даступнае мяса і бульба выперлі ўсё астатняе. Мая бабуля выводзілася з нябеднай сям'і, яе бацька займаў пасаду войта ў падсувальскай Пшарослі. Усё-такі мяса заступала іншымі прадуктамі. З бабуліных рэцэптаў можна было б стварыць сапраўды някепскую кулінарную кніжку для вегетарыянцаў.

**— Ваша ўлюбёная страва?**

— Цяжка абмежавацца толькі да адной, — сцвярджае Малгажата. — Зімой пераважае ў нас індзейская кухня.

Адной са шматлікіх спецыяльнасцей Гжэгажа з'яўляецца ціка масала.

Рыхтуе ён страву вось так:

— Трэба зварыць соўс, у які потым можна ўкінуць амаль усё: гарбуз, спаржу, цяляціну, соевыя катлеты ці курыцу.

Для соўсу спатрэбіцца ачышчанае масла, імбір, часнок, густы ёгурт грэцкага тыпу, цыбуля, таматнае пюрэ, кропелька вадзіцу і, перш за ўсё прыправы.

Нарыхтаваць сумесь індзейскіх прыправаў з солі, нацёртага вострага перцу, куркумы, карыцы і гарам масалы (калі няма дзе купіць, гарам масалу трэба падрыхтаваць самому).

Гарам масалу робім так: бярэм змолаты лаўровы ліст, крыху куркумы, перац, карыцу, змолатую гваздзіку, крыху мускатнага арэха; усё гэта загнятаем у місачцы альбо ў ступцы.

У гаршку разаграваем ачышчанае масла, кідаем туды дробна нарэзаны імбір, хутка яго мяшаем у масле, дабаўляем дробна нарэзаны часнок і таксама хутка мяшаем, каб не прыгарэў. Потым кідаем гарам масалу, многа перцу, крыху менш куркумы, крыху карыцы і глядзім, каб не прыгарэла. Дабаўляем густы ёгурт і зноў мяшаем. Страва павінна набыць прыгожы колер, што таксама істотнае ў індзейскай кухні. Тут можам пакарыстацца памідоравым пюрэ, прыдаючы соўсу ружовы колер. Калі падабаецца нам жоўты, сыплем больш куркумы. Затым уліваем кропельку вадзіцу, дробку солі, кідаем дробна нарэзаную цыбулю, мяшаем і адстаўляем. Потым кідаем туды курыцу, цяляціну, боб ці нешта іншае і зноў на хвіліну адстаўляем. На патэльні разаграваем масла ці алей, сыплем туды муку, дабаўляем перац, куркуму, карыцу, даліваем ваду, мяшаем і спалучаем з соўсам. Калі трэба, яшчэ раз даліваем ваду, каб атрымаць кансістэнцыю гуляшу. Усё зноў заварваем і страва гатовая.

Гжэгаж гарантуе, што ціка масалу варыцца вельмі хутка, трэба толькі мець пад рукой усё, што трэба ўкінуць у гаршчок.

А я, пішучы гэты артыкул, перагрызаю падсушаны жытні хлеб (з крыніцы рэкамендаванай Гжэгажам і Малгажатай), паліты льняным алеем, пасыпаны часнаком і солю.

Смачна, танна і цывілізавана.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Вобраз нацыянальнага героя









■ На здымку: Мікола Купава, „Кастусь Каліноўскі. На пачатку", 1977 (лінарыт, 500 х 360 см)
Крыніца: http://old.orshatut.by/2013/04/tvoryi-mikolyi-kupavyi/

У гісторыі кожнай краіны ёсць асобы, якія пакінулі па сабе значны след. Сярод шматлікіх выдатных постацей на беларускай нацыянальнай глебе, безумоўна, вылучаецца адна, імя якой — Кастусь Каліноўскі. Ён упісаў яскравую старонку ў гісторыю вызваленчага руху і культуру беларускага народа, пакінуў неўміручую публіцыстычную, паэтычную і дакументальную спадчыну. Яго імя назаўсёды засталося ў гісторыі Беларусі сімвалам незалежнасці і барацьбы. Да вобразу кіраўніка студзеньскага паўстання 1863 года неаднойчы звярталіся ў сваёй творчасці пісьменнікі. Сёння можна гаварыць пра вялікую анталогію празаічных, вершаваных, драматургічных твораў, прысвечаных Каліноўскаму.

Кожнае пакаленне беларусаў нанава адкрывае высакародны вобраз свайго нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага. Ён першы абгрунтаваў праграму барацьбы за палітычнае і духоўнае вызваленне беларускага народа і спрабаваў рэалізаваць свае ідэі стварэння дэмакратычнага ладу (у Беларусі і на Літве). Паўстанне ён разглядаў не як самамэту, а толькі як адзіна магчымы і таму непазбежны ў тагачасных умовах сродак дасягнення свабоды і незалежнасці Беларусі.

Паўстанне 1863 года было адным з цэнтральных звенняў палітычнага і духоўнага адраджэння беларускага народа: без яго, відавочна, не адбылося б паскоранае развіццё нацыянальнай культуры ў пачатку XX стагоддзя. Зразумела, той важны перыяд у гісторыі Беларусі, як ужо падкрэслена, не мог не адгукнуцца ў літаратуры. Пісьменнікі шматразова ў сваіх творах звярталіся да гэтых бурлівых падзей і да постаці галоўнага правадыра нацыянальнага паўстання Кастуся Каліноўскага. Ён стаў своеасаблівым сімвалам змагання за сваю мову, культуру і правы.

Творамі, якія моцна садзейнічалі глыбокаму асэнсаванню ролі Каліноўскага ў гісторыі і грамадскім жыцці Беларусі былі „Каласы пад сярпом тваім" Уладзіміра Караткевіча і „Сярэбраны яздок" Сакрата Яновіча. Гэтым двум пісьменнікам тэма студзеньскага паўстання была асабліва блізкая не толькі сваёй беларускасцю, але таксама — асабістымі абставінамі, пачуццямі. Менавіта сваяк Уладзіміра Караткевіча прымаў удзел у падзеях 1863 года, што паўплывала на жывую памяць пра паўстанца ў роднай хаце пісьменніка. Сакрат Яновіч, родам з Крынак — мястэчка на Беласточчыне, якое было ахоплена паўстанцкім рухам.

Уладзімір Караткевіч, стварaючы раман „Каласы пад сярпом тваім", імкнуўся нагадаць беларусам, што яны такі самы народ як іншыя, што яны маюць свае вялікае права і павінны ганарыцца сваёй гістарычнай мінуўшчынай. У рамане „Каласы пад сярпом тваім" Караткевіч паказаў, што беларусы з'яўляюцца спадкаемцамі багатай, шматвяковай, надзвычай цікавай гісторыі і герояў, і такіх выдатных як Кастусь Каліноўскі. На думку Караткевіча, маючы такіх герояў, нельга пагадзіцца з тым, каб іх гісторыя была сапхнутая ў падполле. Адным словам, Караткевіч сваім творам спрабаваў абудзіць нацыянальную і гістарычную свядомасць беларусаў так, як рабілі гэта ягоныя героі — Кастусь Каліноўскі і Алесь Загорскі ў рамане „Каласы пад сярпом тваім". Пісьменнік так як герой яго рамана — Кастусь Каліноўскі, паказваў сваім суайчыннікам крыніцы ўласнай нацыянальнай тоеснасці, адначасова змушаючы іх да таго, каб сягнулі па свае правы.

Іначай паказвае вобраз Кастуся Каліноўскага ў аповесці „Сярэбраны яздок" Сакрат Яновіч. Аўтар галоўнай гераіняй зрабіў Марыю Грыгатовіч, якая прымала ўдзел у канспіратыўнай паўстанцкай дзейнасці. Кастусь Каліноўскі з'яўляецца ў аповесці найчасцей пад псеўданімам Макарэвіч, прадстаўлены, як звычайны чалавек, якому не чужы холад марозных месяцаў, хваляванні за каханую і стомленасць доўгім маршам. Аднак Яновічу не трэба было шмат апісваць геразім і ўчынкі рэвалюцыянера, каб даказаць сваёй кнігай яго неацэнную ролю і ўплыў на гісторыю беларускага народа. Старадаўняя сярэбраная манета, якую перадае Макарэвіч Марыі, нагадвае чытачу пра Вялікае Княства Літоўскае, якое напаўняе кожнага беларуса гордасцю і гонарам. Сама назва аповесці вельмі выразная — Сярэбраным яздаком Яновіч называе Кастуся Каліноўскага, чым параўноўвае яго з гераічным вершнікам з XVI стагоддзя. Пісьменнік хоча ўзгадаць перыяд велічы беларускай дзяржавы, якая паўстала дзякуючы людзям, падобным на Кастуся Каліноўскага.

Вядома, што афіцыйная савецкая ідэалогія неахвотна прымала гістарычную праўду пра Вялікае Княства Літоўскае і змаганне супраць ворага ў час студзеньскага паўстання 1863 года. Пасляваенная савецка-беларуская гістарыяграфія маргіналізавала ці нават выкідала памяць пра перыяды, калі беларусы спрабавалі змагацца за незалежнасць. На працягу дзесяцігоддзяў улады імкнуліся прышчапіць, не толькі беларусам, афіцыйны міф аб адзінстве і братэрстве грамадзян Савецкага Саюза. Караткевіч, як і Яновіч, хаця ўсведамлялі сабе цяжкасці рэалізацыі і папулярызацыі ўласных ідэй, садзейнічалі ўсталяванню гістарычнай справядлівасці.

Можна з поўным правам сказаць, што вобраз Кастуся Каліноўскага ў творах Уладзіміра Караткевіча „Каласы пад сярпом тваім" і Сакрата Яновіча „Сярэбраны яздок" паўплываў на новае ўспрыманне постаці вялікага змагара за нацыянальную беларускую годнасць і незалежнасць — Кастуся Каліноўскага.

**Уршуля ШУБЗДА**

(Фрагмент магістарскай працы аўтаркі, напісанай пад кіраўніцтвам праф. Універсітэта ў Беластоку д-р габ. Галіны Тварановіч).

## «Носьбіты культуры» ч. II

Аб'яднанне фільмавай адукацыі прапануе ўвазе гледачоў чарговыя два фільмы пра беларускіх «носьбітаў культуры». Серыя, у рамках якой можна было дагэтуль пазнаёміцца з асобамі паэта Віктара Шведа і мовазнаўца Міхала Кандрацюка, пабагацела на новыя два аповеды. У «Гаспадарскім сыне» сустракаемся з гісторыяй дзейнасці **Мікалая Бушко**, вядомага перш за ўсё як ініцыятара фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Фільм «Вольны» акцэнтуе самыя важныя напрамкі дзейнасці гісторыка **Юрыя Туронка**. Кароткаметражныя, змястоўныя фільмы, але важныя як заяўкі пра жыццё асоб з вялікім укладам у развіццё беларускай культуры і беларускай свядомасці.

Безумоўна, варта сустрэцца з чарговымі героямі «Носьбітаў культуры» і паспрабаваць уявіць сабе якраз іх багаты свет. Кожны з нас ставіць свае мэты і па-рознаму рэалізуе сябе ды свой аўтарскі фільм пра жыццё. Шляхі Мікалая Бушко і Юрыя Туронка зусім розныя, але сустракаюцца ў пункце, у якім узнікла пытанне: што магу даць ад сябе беларусам? Фільмы прыносяць адказ на гэтае пытанне, але няхай будуць таксама штуршком, каб пайсці ў бібліятэку ці зазірнуць у інтэрнэт ды пазнаёміцца шырэй з біяграфіямі герояў фільмаў ды заадно гісторыяй беларусаў у Польшчы.

Аўтарам фільмаў з'яўляецца Радэк Дамброўскі, які ў кароткай форме здолеў знайсці месца, каб перш за ўсё асвятліць лёс сваіх герояў ды паказаць галоўныя сцежкі, якімі ішлі яны на працягу свайго жыцця. «Носьбіты культуры» гэта ў задуме калекцыя фільмаў, якія заахвочваюць пашырыць веды пра беларускую культуру і гісторыю, якая неабавязкова канчаецца на маленькай айчыне.

Кампакт-дыскі з фільмамі даступныя доўгатэрміновым падпісчыкам «Нівы».

Фільмы зрэалізаваныя дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі Польшчы.

**Ілона КАРПЮК**

## Рынчная кемлівасць

Ад шматлікіх гадоў паўтараю лякарствы ад ціску і сардэчнай недастатковасці. Такі рэцэпт атрымаў ад кардыёлага ў Гайнаўцы. І дагэтуль у Гміным асяродку здароўя ў Чаромсе не было з гэтым праблемы. Паўтор медыкаментаў рабіў я ў рэгістрацыі штомесяц, што гарантавала прадаўжэнне амбулаторнага лячэння. У студзені г.г. наш сямейны лекар падаўся ў водпуск. Пацыентаў абслугоўваў медык з Гайнаўкі. Калі я ў час візіту папрасіў паўтарыць неабходныя лякарствы ад ціску і сардэчнай недастатковасці, дык медык запытаў: «На колькі месяцаў патрэбны медыкаменты, на два ці на чатыры?»

— На месяц, — адказваю.

— На месяц не прапісваю... Або на два месяцы, або на чатыры, — адказаў лекар...

Запісаў я на два...

Вось, даражэнькія, як медыкі дбаюць аб наша здароўе. Не важна яму, што стары чалавек можа сканаць і пакінуць сямейнікам непрыдатныя лекі. Асноўнае, што ён выканаў службовы абавязак, а фармацэўтычныя фірмы атрымалі прыбытак.

**(ус)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі





# Карнавал і фокусы

Калі як не ў навагодні час нам падбіваць настрой, цешыцца сяброўствам?

Гімназісты з беластоцкай «сямёркі» гэта ведаюць найлепш. Ужо чарговы раз, супольна з настаўніцай Альжбетай Рудкоўскай, яны наладзілі «Шчадроўку». На класнае свята, якое адбылося 16 студзеня, запрасілі сяброў, які не вывучаюць беларускай мовы. Гэтыя не ведалі нічога раней пра абрад, але магічныя гульні, гумар і фокусы, якія калісь рабіла сабе беларуская моладзь, усім надта спадабаліся. Гэта, дарэчы, відаць на здымках.

*(у наступным нумары напішам пра казачны конкурс у Гімназіі № 7)*

## Загадкі з роднай хаткі

## Увага, конкурс!!! (№ 5-15)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 8 лютага, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

Працаўніца шчыравала,
Мех арэхаўназбірала.
І грыбоў шмат насушыла,
Спелых шышак нанасіла,
Прыхавала ўсё ў дупло,
Каб зімой на стол было.
В......

(Васіль Жуковіч)

**2.**

Маеш ты другую маці,
Не жыве яна ў хаце,
Малачка табе дае,
— Му-у-у, — яна гаворыць. —
Му-му-у.
Мо пытаецца:
— Ка-му-у-у?
К.....

(Н. А. Сторажава)

**Адказ на загадкі № 1-15: снег, сняжынка, зайчык. Узнагароды, планшавыя гульні, выйгралі Міхал Тапалянскі, Дыяна Хіліманюк з Нарвы, Караліна Трусевіч з Гайнаўкі, Наталля Маркевіч з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

*Наталля ВАСЬКО, Гімназія ў Нараўцы*

## Паслухай мяне

*Прыяцель, паслухай мяне,*
*Я табе скажу, як знайсці шчасце,*
*Я табе скажу, што зрабіць, каб добра жылося,*
*Я табе скажу аб жыцці праўду,*
*Я табе скажу, што добрае, а што дрэннае,*
*Я табе скажу, чым у жыцці кіравацца,*
*Я табе скажу, як адрозніць сяброў ад ворагаў,*
*Я табе скажу, што выбраць.*

*Прыяцель, ты мне гавары,*
*Ты гавары, што на сэрцы тваім ляжыць,*
*Ты гавары, хто цябе параніў,*
*Ты гавары, каго цяпер кахаеш,*
*Ты гавары, чаму раніцай ты плакаў,*
*Ты гавары, чаму ты хочаш навучыцца,*
*Ты гавары, чаго пра жыццё хочаш даведацца,*
*што ў тваім жыцці здарылася.*

*Прыяцель, ты памятай, што я тут,*
*Што я тут, каб табе дапамагчы,*
*Што я тут, каб табе параіць,*
*Што я тут, каб тваё жыццё каляровым было,*
*Што я тут, каб заўсёды быць на тваім баку,*
*Што я тут, каб падтрымаць цябе ў кожную хвіліну,*
*Што я тут, заўсёды пры тваім баку,*
*Што я тут, была і заўсёды з табой буду.*

## Мароз і Марозік
### *(літоўская казка)*

Жыў на свеце Мароз Чырвоны Нос. Летам ён адпачываў, а зімой шчыраваў за работай. Ён сыпаў на зямлю снег, мяняў ваду ў лёд, маляваў на акне прыгожыя пальмы, застаўляў людзей надзяваць цёплую вопратку: кажухі, футры, шапкі, шалікі, рукавіцы, валёнкі.

У яго быў сынок Марозік. Ён сачыў за бацькам, дапамагаў, вучыўся. Аднойчы Мароз і Марозік пайшлі прагуляцца. Побач іх пракацілася брычка, у якой рассеўся тоўсты пан. Ён быў апрануты ў цёплае футра, на галаве ў яго была шапка, а на руках — цёплыя рукавіцы.

Марозік ірвануўся паказаць сваю сілу. Ён залез пану пад футра і пачаў яго студзіць. Пан, хоць у яго было новае і цёплае футра, адразу акасцянеў. Марозік вярнуўся да бацькі і кажа:

— Бач тата, які я моцны!

Мароз Чырвоны Нос заўсміхнуўся і кажа:

— Калі ты, сынок, такі моцны, то паспрабуй змарозіць гэтага дрывасека, што ідзе нам насустрач.

Сын з радасцю пагадзіўся. Марозік адразу залез дрывасеку ў валёнкі. Валёнкі былі старыя і ногі замерзлі. Аднак чалавек прыспешыў хаду, пасля кінуўся бегчы і яму стала цёпла.

Тады Марозік залез чалавеку пад кажух. Кажух быў старэнькі, мала што грэў. Але дрывасек стаў секчы дрэвы, рубаць дровы. Аж упацеў ад работы! Ён скінуў кажух, рукавіцы і далей працуе...

— А ну на цябе! — узлаваўся Марозік, ды рашыў схітрыць. Ён схаваўся ў рукавіцы і чакае. Рукавіцы зрабіліся цвёрдыя як камень, халодныя як лёд. Хапіла на іх зірнуць, каб холадам пранікнуць.

Калі чалавек кончыў работу, ён апрануў кажух, надзеў рукавіцы і бачыць, што нешта не так. Ён прыкмеціў усярэдзіне Марозіка. Дрывасек скінуў рукавіцы і давай іх абухам збіваць! Бедны Марозік ледзь жывы, і хоць паабіваны, выкараскаўся з той авантуры.

***(Пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)***

№ 05 [01-02-2015]

# Будзе па-беларуску

Другакласніца **Іга Юзэфовіч** з Крынак цікавіцца беларускім словам і музыкай. Дзяўчыны ў народных касцюмах, вясковыя хаткі і звяркі часта паяўляюцца таксама ў яе малюнках. З нашым тыднёвікам пагутарыла яна пра навейшыя падзеі ў яе мастацкім жыцці.

**— Рыхтуешся да выступлення...**

— Так, неўзабаве ў нашай школе адбудзецца конкурс на найлепшую калядку, а дакладна на найлепш праспяваную калядку. У нашым класе мала хто любіць спяваць, таму і ўдзельнікаў не будзе шмат.

**— Што пакажаш сваім калегам?**

— Арганізатары конкурсу зазначылі, што спяваць можна неабавязкова на польскай мове, таму я выбрала „Добры вечар тому, хто ў гэтаму дому”. Гэта беларуская калядка, якой я навучылася на сустрэчах нашага калектыву „Заранка”. Яна распавядае пра каляднікаў, якія жадаюць здароўя і шчасця седзячым за накрытым сталом гаспадарам.

**— Ці Ты сама калі-небудзь калядавала?**



Справа налева:
Іга Юзэфовіч,
Таня Малеша
і Вікторыя Юзэфовіч
(сястраІгі)

— Не, я ніколі ў жыцці не бачыла каляднікаў, але чула, што такі звычай недзе існуе.

**— Ці гэта будзе адзінае беларускае выступленне ў гэтым конкурсе?**

— Так, ніхто апрача мяне не ведае беларускіх песень. Мая аднакласніца Уля таксама спявае ў „Заранцы”, але на конкурс рыхтуе нешта па-польску.

**— Дзе знаёмішся з беларускай мовай?**

— Толькі ў „Заранцы”.

**— Твая прыгода з музыкай...**

— Тры гады таму запісалася я ў „Заранку” і так ужо засталося. У гэтым годзе пачала я вучыцца іграць на піяніна. Хацела на гітары, але настаўніца сказала, што да гітары мушу яшчэ падрасці. Музыка дае мне шчасце, смеласць і папулярнасць.

**— Пасляхова Табе выступлення!**

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

## СЯБРОЎСТВА
### (грузінская казка)

Адзін хлапец спытаў у мудрага дзеда:
— А ці ёсць на свеце нешта даражэйшае за золата?
Дзед падумаў і кажа:
— Сяброўства! Яно даражэйшае за золата.
Тады хлапец зноў пытае:
— А ці ёсць нешта больш трывалае за жалеза?
Старэча паўтарыў:
— Сяброўства. Яно больш трывалае за жалеза.
Хлапец яшчэ раз запытаўся ў дзеда:
— А ці ёсць нешта мацнейшае за буру?
І ў гэты раз дзед адказаў:
— Сяброўства. Яно мацнейшае за буру.
— А чаму не ўсе пра гэта ведаюць? — здзівіўся хлапец.
— А таму, што не ставяць такіх пытанняў, — падвёў усю размову стары разумнік.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

*Патрыцыя Карлаў*
*Пяшчанікі, Гарадоцкая гміна*

## *Мая душа*

*Мая душа спявае*
*На беларускай мове.*
*Мой родны кут –*
*Падляшша.*
*Маё сэрца бяжыць*
*У Беларусь.*

*Беларусь жыве*
*Са мной*
*І з табой.*
*Жыве ў нашых сэрцах,*
*У нашай душы.*
*І будзе жыць,*
*Пакуль у чалавека душа,*
*Пакуль б’ецца сэрца.*
*Той чалавек пакахае*
*Беларусь,*
*У якога душа і сэрца.*

## *У Гарадку будзе «Пагоня»!*

Вучні V класа параўноўвалі герб Беластока і беларускую «Пагоню». Гэта ўсё адбывалася на занятках па гісторыі рэгіянальнай культуры. З маленькіх клубкоў каляровай паперы мы зрабілі вялікія карты. Мы даведаліся, што колеры ў геральдыцы маюць вялікае значэнне. Яны сімвалізуюць духоўныя каштоўнасці. Нас зацікавілі гэтыя працы і цешымся, што ў зале беларускай мовы будзе «Пагоня» — вершнік на кані. Яе сімволіка светлая. Яна натхняе да высакародных учынкаў, такіх як свабода і вернасць народу.

**Аляксандра Яроцкая**
**і Эліза Матус, Гімназія ў Гарадку**

## Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 1:**

Мараль, ікра, гулі, залом, елка, крылаты, яр. Конік, куцця, маг, узлёт, лак, асілак, Лі, ампер.

Узнагароды, кніжку Сары Лундберг «Віта Белая Крэска і Эйвінд», выйгралі *Дамініка Календа*, *Іанна Нікіцюк* з Бельска-Падляшскага, *Віялета Смалюк* з Арэшкава, *Сара Скаўронская* з ПШ № 4 у Беластоку, *Іанна Рута* з КШ № 3 у Гайнаўцы. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Prom / Baran | | Kokarda / Rower | | | | |
| | Wieloryb | Broda / Kasza | | | | | | | Na / Naleśniki |
| | Korona | | | | | | | Banan | |
| Kot / Krowa | | | | | | | Ada | Po | |
| Dźwig | Szaman | | | | | | Pi | | |
| | | | | | | Fan | | | |



## Вершы Віктара Шведа

### Умею лічыць

— Ці ўмееш, Янка лічыць?
— Умею, вядома.
Татка мяне навучыў,
Не ў школе, а дома.

— Дык што будзе па шасці?
— Будзе сем, не сакрэт.
— А пасля дзесяці?
— Напэўна будзе валет.

### Невядомая парода

У рэстаран зайшоў юнак
Разам з вучнёўскай групай.
— Афіцыянт, што за чарвяк
Плавае ў маім супе?

— Невядомае пароды —
Не бачыў я ніколі.
З біялогіі заўсёды
Меў клопаты я ў школе.

### Не трэба баяцца

Юны тыгр па дрэсіроўках
На цыркавай арэне
Глядзіць дзіка і нялоўка,
Са страхам, недаўменнем.

Хто сядзіць, хоча дазнацца,
Тут публікі багата.
Ды не трэба яе баяцца,
Усе яны тут за кратамі.

### Жырафа

Настаўнік просіць Фому:
— Ты поўны пачуцця,
Падай вышэйшую форму
Звярынага жыцця.

— Здаецца добрая норма
І адпаведны грунт,
Што найвышэйшай формай
Жырафа будзе тут.

# Лес расце




Яшчэ ноч, яшчэ няма шостай. Невялікі аўтобус з трыма пасажырамі ў салоне нясе ў лагодную снежную ноч шоргат колаў аб замярзаючы снег і святло фараў, якое, наперамен з фарамі іншых машын, рассвятляе паласу шашы. Мо з космасу гэтая паласа бачыцца як нейкая светлая жыла, па якой перамяшчаюцца светлавыя снапы, быццам рыбы ў рацэ, быццам электроны ці біты ў правадніках. *Pantha rhei...*

Пагранпераход у Баброўніках не спіць, адкрыты некалькі ларкоў, бо ж і перад граніцай стаіць невялічкая чарга грузавікоў, якіх экіпажы могуць яшчэ нечага патрабаваць перад адпраўкай у замежны курс. Аўтобус, які двойку маіх ананімных мне спадарожнікаў пакінуў у Гарадку, калясіць да апошняга прыпынку, які аддалены ад перахода і набліжаны да вясковай вуліцы. У Коматаўцы машына не едзе, хаця ў інтэрнэтным раскладзе язды мела туды ехаць.

У Баброўніках цішыня, адно нейкі сабака адазваўся здалёк. А больш не чуваць — каб хаця нейкая кароўка адазвалася, ці авечка, ці конь, ці певень... Дарога ў Коматаўцы прыкрыта снегам, адно толькі след адной машыны працер яе з раніцы, мабыць гэта патруль пагранічнікаў праехаўся. І ад Баброўнік нейкі час быў сабачы след, які далей знік. Сабакі, якія лічацца найбліжэйшымі чалавечымі даверанымі, таксама патруліруюць свае тэрыторыі. У Коматаўцах тое ж самае — бліжэй вёскі сабачы след. І цішыня. З аднаго коміна падняўся дым.

Дарога з Баброўнік у Коматаўцы, так як і кожны іншы прыродны ці антрапагенны твор, мае свой пачатак і канец — не толькі ў прасторы, але і ў часе. Яе незвычайная гісторыя пачалася ў 1950-х гадах. У 1956 годзе „Газета Беластоцкая" пісала: „... **ze wsi Chomontowce do wsi Bobrowniki jest tylko sześćset metrów poprzez łąki Państwowego Funduszu Ziemi. Chłopi z Chomontowiec już od dawna chcą zbudować sobie drogę do gromady poprzez te właśnie łąki. Członkowie partii rzucili hasło podjęcia zobowiązania. Zobowiązanie podjęto, a nawet ludzie rozpoczęli je wykonywać. Wozili już kamienie i piasek. Chodziło tylko o to, iżby władze powiatowe przysłały odpowiedniego pracownika, który by oficjalnie wytyczył i wymierzył tę drogę...**". У гэту справу трэба было, аднак, уцягнуць і ваяводскіх чыноўнікаў. І неяк усё ўдалося. Ужо ў 1961 годзе „Ніва" пісала: „... прыкладам карыснай грамадскай ініцыятывы служыць вёска Коматаўцы (Беластоцкі павет). Гэтую вёску з шашой спалучае 3-кіламетровая палявая дарога, раней непраходная і непраезная, размоклая. І, каб даехаць да шашы, людзі былі вымушаны рабіць кругавую два разы даўжэйшую. Але вось у 1959 годзе дзве суседнія вёскі — Коматаўцы і Баброўнікі ўзяліся за гэтую дарогу. Працавалі чынам. Праз гразкія і мокрыя лугі, што абапал дарогі, пракапалі равы, за якімі даглядаюць. Саматужная меліярацыя, а як многа карысці прыносіць. Дзе балота траслося, зараз і машына па дарозе праедзе, і луг выглядае як луг".

У той жа час і пра самую вёску было ў „Ніве": „У часы санацыйнай Польшчы ў нашай вёсцы было толькі 5 маняжоў (г.зв. кератаў). Зараз іх тут аж 25. Калісь былі тут 2 веялкі, а цяпер каля 20-ці. Людзі ўспамінаюць, што вёска мела ў даваенны час толькі 2 будзільнікі і 2 веласіпеды. Зараз кожны малады хлапец і дзяўчына мае ручны гадзіннік, а будзільнік ёсць у кожнай хаце. Большасць жыхароў вёскі мае веласіпеды. Ёсць тут таксама адзін матацыкл і матаровар. А хто калісь мог марыць аб т.зв. балонах. Зараз у нас каля 20 гумовых вазоў. Амаль у кожнай хаце ёсць радыёкропка, дзякуючы чаму людзі добра арыентуюцца ў падзеях у краіне і ў свеце. Зусім інакш выглядаюць сёння школьныя справы. У санацыйныя часы дзеці вучыліся ў дзвюх наёмных хатах, дзе былі толькі чатыры класы. Цяпер жыхары вёскі маюць школу, пабудаваную яшчэ ў 1940 годзе. Некалькі год таму назад быў тут праведзены грунтоўны рамонт, а побач са школай пасаджаны малады сад. (...) Нягледзячы на паасобныя непаладкі ў жыцці вёскі Коматаўцы, трэба з упэўненасцю сказаць, што яна ідзе зараз паспяхова па новым шляху, пракладзеным ёй народнай уладай".

Пра поспехі можна пісаць і цяпер. У Коматаўцах шмат хат абноўленых, крыху хат новых. А пасярэдзіне вёскі нехта рашыў пабудаваць сабе жыллё накшталт колішняга панскага двара. Падмурак пад плот ад вуліцы змураваны з большых камянёў, а слупы для агароджы выкананы з расколатых валуноў. Слупы, на якіх трымаліся колішнія стадолы, амаль невідочныя — пазарасталі прыродай. Участак, на якім калісь стаяла школа, зараз амаль пусты, а за ім амаль паўсюдна паднімаецца маладая бярэзіна.

У лесе за Коматаўцамі вясковыя могілкі. Здаецца, невялічкія яны, здаецца, што далёка яны ад населеных пунктаў, але ў зімовую ранічку гарэла на магілках шмат лампадак — нашчадкі помняць пра сваіх продкаў.

Жвіроўка злучае Гарадоцкую і Крынскую гміны, аднак пры такой дарозе няма фармальных указальнікаў, якія б інфармавалі пра межы адміністрацыйных адзінак, як гэта мае месца пры важнейшых дарогах. Але пры жвіроўцы з Коматаўцаў у Рудакі ёсць асаблівы паказальнік гэтай адміністрацыйнай падпарадкаванасці. Тэрыторыя Гарадоцкай гміны супадае ў агульнасці з тэрыторыяй надлясніцтва Валілы, а тэрыторыя Крынскай — з надлясніцтвам Крынкі з сядзібай у Пачапку. І вось гэты апошні суб'ект аж кіпіць усялякай паказной ініцыятыўнасцю. Малады лес, што зараз быццам біблейскі патоп залівае пакіданую Усходнюю сцяну, тут аздоблены старымі соснамі, уваткнутымі ў зямлю камлямі ўверх. Магчыма, што гэта сучасны канон прыгажосці, быццам старажытныя скульптуры Фідыя...

Да Рудакоў прытуліліся аблагі, да аблагоў — маладыя пасадкі, якія чым далей ад вёскі, тым сталей. Недзе ў вёсцы азываюцца пеўні. На вуліцы зранку невялікі рух. Пажылы мужчына толькі што замёў снег перад брамкай на свой панадворак. Заводжу з ім размову. Чалавек здзіўляецца, што я гавару па-свойму. Цяпер, тлумачыць ён, усе маладыя людзі гавораць па-польску, а ён палічыў мяне маладым...

У Рудаках зараз шмат хат пустуе, у вёсцы жыве толькі дзевяць душ, а колькі жыло зараз пасля вайны — мой субяседнік не сказаў, хаця я два разы паўтарыў пытанне пра той лік. Сёння чакаюць бацюшкі. Таму, мабыць, з самага досвітку замецены сцежкі ў хаты. Насупраць хата, якую купіў „варшавяк" і зараз, значыць летам, бо толькі ўлетку тут жыве, выконвае ў ёй розныя рамонты. Ды не толькі ў сваёй хаце, але і цэментны крыж, што за вёскай, абнавіў, літаркі пачысціў, а ягоная цешча апратала жалезны крыж на другім канцы вёскі. Калі мясцовыя дзіваваліся, чаму яна, каталічка, прыбірае праваслаўны крыж, яна адказала, што ёй няма розніцы які крыж; мясцовыя заключылі, што яна шчыра набожная. Тры жанчыны трымаюць курэй. І мой субяседнік таксама трымаў курэй, але падушылі іх тхары. Паводле яго навокал поўна ваўкоў і рысяў. Штодзённа ў Рудакі прыязджае мабільная крама, толькі вось пакупнікоў няма, хаця крама прапануе ўсё, у тым ліку і паціхеньку такі тавар, якім можна павесяліцца. Зямля тут была добрая, пшаніцу і ячмень радзіла, але людзі паздавалі яе для пенсій. Мой субяседнік быў нават дакупіў яе сабе, але пасля, так як і іншыя, таксама здаў дзяржаве.

Чаму сяляне з Рудакоў так масава паздавалі добрую зямлю? Бо ж зямелька тая даставала шмат клопатаў, не толькі з прычыны натужлівага яе абраблення, але і з боку бюракратаў, якія кідалі сялянам калоды пад ногі. Вось што пра здзекі чыноўнікаў пісала „Ніва" амаль шэсцьдзесят гадоў таму, у 1956 годзе: „У вёсцы Рудакі, ГРН Крушыняны, падчас ваенных дзеянняў загінулі рэестры сялянскай зямлі. Пасля вызвалення ўзнікла патрэба, каб камісійна пракантраляваць, колькі гектараў зямлі мае кожны аднаасобны селянін вёскі. Такая камісія была сарганізавана і на аснове памераў супольна з сялянамі справядліва акрэсліла колькасць зямлі ў кожнага гаспадара. Здавалася б, што справа закончана. Камісія вымерала, пастанавіла. Сяляне пачалі ажыццяўляць дзяржаўныя пастаўкі і зямельныя падаткі па справядлівасці, у залежнасці ад таго, хто колькі меў зямлі. Аднак таварышы з Павятовай рады нарадовай у Саколцы зусім інакш глядзелі на гэтую справу. Ім здавалася (невядома чаму), што ў Рудаках маюць больш зямлі, чым запісана ў рэестрах. І вось у 1953 годзе ў Рудакі прыехаў тав. Ляшчынскі — намеснік старшыні ПРН у Саколцы. Нікога не пытаючы, самавольна, пры дапамозе пераліку сялян узяў ды падапісваў каму гектар, каму два, а другім і па тры гектары зямлі. І вось такім чынам у сялян з Рудак фіктыўна павялічылася плошча ворнай зямлі. Таму трэба было дастаўляць большыя дзяржаўныя пастаўкі, плаціць большыя падаткі. Аднак сяляне не маглі і не хацелі згадзіцца з такой несправядлівасцю. Пачалі высылаць дэлегацыі ў Павятовую раду, пісаць заявы ў Ваяводскую раду. На жаль, гэта не дапамагло. Толькі тады, калі напісалі заяву ў Міністэрства сельскай гаспадаркі, на яго інтэрвенцыю сарганізавана яшчэ раз камісію, якая сцвердзіла, што Ляшчынскі самавольна, без усялякіх падстаў падапісваў сялянам зямлю. З таго часу сяляне пачалі рэалізаваць дзяржаўныя пастаўкі справядліва, у залежнасці ад таго, хто колькі зямлі мае ў рэчаіснасці. Аб гэтай справе можна было б і не пісаць, каб сяляне з Рудак і ў далейшым не былі пакрыўджанымі. Зараз сяляне дзяржаўныя пастаўкі рэалізуюць так, як сцвердзіла камісія, а падаткі плацяць паводле падапісванай Ляшчынскім зямлі. І вось, напрыклад, грамадзянін Шымель дзяржаўныя пастаўкі рэалізуе за 7 гектараў зямлі, а падаткі плаціць за 12 гектараў зямлі. Такіх сялян, як Шымель, якім дзеецца крыўда, у Рудаках ёсць многа".



Кругом зарастае лес. На выхадзе з Рудакоў паказаўся мне ўжо пяты сасновы камель. Калісь гаварылі, што ***chłop śpi, a jemu rośnie***, а зараз, калі мужыцкую зямлю пераняла дзяржава і прызначыла пад аблясенне, таксама трэба сказаць тое ж, адно толькі цяперашні мясцовы ***chłop*** не моркву садзіць, толькі бярозы і сосны...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

„Тройцай" іх тут называлі: Ромчыка, Мікалашу і Ванюшу, гэткіх нашых „сялянскіх братоў", хоць яны ў братах зоўсім не хадзілі. І сёння яны сядзелі ў сваім „сэйmі", на лавачцы, прад Мікалашавай хатай, і зранку зноў свае языкі-балясы мачылі. Ванюша зацягваў сваю штодзённую арыю, дамагаўся станоўчага выбару: „Pytała się pani starego doktora, czy dobrze jest z rana, czy lepiej z wieczora?". Мікалаша — інакш „капітан" — ён калісь служыў на Балтыцы — тожа хацеў ведаць: „Czy zwyczajny podchorąży może być przyczyną ciąży?". Ромчык, найслаўнейшая з іх філасофская душа, выкладаў — каторы ўжо раз! — сваю дысертацыю пра... зубы і ... чалавечую старасць, хаця яму да яе было яшчэ далёка. Заяўляў ён, што Pan Bóg — ён так і гаварыў — абсалютна няўдала і бесплянава стварыў канец чалавечага лёсу, дзе ўсім усё ные і баліць „да чорцікаў"; ад малога да вялікага ж на зямлі страшэннае пекла — зубы, клыкі-падлюгі, што да шаленства і яго, Ромчыка-мучаніка, часта даводзяць! Гэткае найгоршае з Божых дзеяў!.. А можна ж было, Пану Богаві, якуюсь плятыну, алмаз ці золата са смарагдам у людскую гэту зяпу ўставіць, а то звычайных касцей Ён туды напхаў, якія тут жа і парахнеюць, гніюць!.. Ну, калі ўжо, чамусьці інакш і нельга было, то — перш за ўсё справу пачаць следавала на свеце ад усіх ц-ё-ш-ч-а-ў, але даючы ім толькі па два зубы! Каб яны менш голасна і ядавіта ляскаталі аб іх языкамі-барабанамі, і як найцішэй імі, як сячкарнямі, круцілі!.. Так, толькі два клыкі! Адзін — каб з міласці зяцёўскай, трэба ж мець трохі ласкі і для такіх пітэкантропусаў! — яна магла сабе пагрызці скарынку хлеба, а другі касцяк — каб было чым міламу зяціку, не толькі зранку, бутэльку піва адкрываць!..

„Тройца" гагатала ад гадзіны, „узяўшыся" сёння за свайго таварыша Стэфка Рыбчынскага: як ён там са сваёй Улькай кахаецца-мілуецца, па-мужчынску „распрацоўваючы" камасутравыя ўсе гэтага дэталі...

* * *

Стэфка... яго ад маленькосці называлі ў ваколіцы Бародаўкай. Бо няшчасце, бачыце, было з ім, хоць ён быў і добры кавалежка. Сярод вялікіх, сініх-сініх як цвітучы лён, вачэй, зросшыхся броваў-кустоў і, як крукавы пёры такога ж чорнага чуба-завітухі, па ўсім яго твары расселіся, меншыя і большыя, бародаўкі!.. Ды каб адна-дзве, якіх бы і „мышкай" называлі, але іх тут было м-н-о-с-т-в-а!.. З гэтым усім і расло тут такое хлапчаня, каторае ўсе пхалі, білі, высмейвалі, дражнілі, абзывалі, ногі падстаўлялі, плявалі нават у яго бок!.. Малыя і дарослыя... Людзі ж нашы вельмі ўмеюць быць „добрымі"!..

Праз гады папіханец стаў двухметровым, шырокаплечым геркулесам, на адзін від якога ўсе ўжо цяпер заціхалі, сыходзілі з дарогі, ласкава С-т-э-ф-к-а-м называючы. Вядома было ўсім: нарвіся ты сёння на гэтага дуба-вяза, дык паляціш мячыкам — як Ромчык, пры насмешцы, у крапіваасот мызай, з разбітай пашчэнкай... Бо Стэфка ж усе свае годы бачыў, як людзі, у найлепшым выпадку, адварочваліся ад яго. Ён часта голасна плакаў, і сціішка-нябачна, дзясяткі дзён і начэй... У кавалерку выйшаў — бародку маленьку, кучаравую, чорную аж сінюю завёў-запусціў, скрыў часціну сваёй бяды... Хто рос з ім, быў побач, спатыкаўся, прывык да яго, палюбіў Стэфка за спакой, дабрыню, паслухмянасць, ахвоту рванууца-кінуцца першым таварышам на дапамогу.

Дзе-хто раіў яму, па-сардэчнаму, апераацыю: сёння ж што за вялікі труд грудкі-бародаўкі зрэзаць? Стэфка маўчаў... Іншыя гаварылі яму: падайся ў Берлін ці Лондан, адрасы давалі, а ён усміхаўся і гаварыў: „сляпы казаў — пабачым, глухі казаў — пачуем...".

— Хлопцы-рыбалоўцы, г-л-я-нь-ц-е! — крыкнуў Мікалаша, — Стэфкава малачарня ідзе! — цмокнуўшы працяжна, прасвістаў фанабэрысты цудадзей. — Вырастуць жа такія грудзішчы, футбалы два алімпійскія!.. Гэй, Стэфаніха-Улька, хадзі да нас, глянь хоць разок на нас, бедных, — гарланіў далей Мікалаша, — пацеш вочы нашы, хай абліжамся станам тваім цыцастым, малака вагонамі!..



Фота Адама Паўлоўскага

# БАРОДАЎКА

Улька, падыходзячы, зарагатала:

— У Грушанькі тваёй няўжо меншыя?

— Ой, Улечка-суседачка, куды ж каму раўняцца? А мне, дальбог, як жа прагнецца, на тваіх рысорах-кушэтках пагойдацца, а як, а калі, а дзе? А то ўсё тваё гэта „царства" аднаму толькі Стэфку і прыпадае, іншаму без карысці!..

Вясёлая Улька, жонка Стэфкава, паставіла вёдры, палажыла каромыслы, на „тройцу" замахнуўшыся, ды скамандавала: — А ну, Мікалашка, падыдзі!.. — і хваць яго жменяй цэлай, зубаскала, са смеху затросшыся, за міжножжа!..

Той ад нечаканасці ё-к-н-у-ў, а два другія клоўны аж сарваліся з лаўкі, мігам адскочылі, адсунуліся, баючыся і ў сябе Ульчынай „рэвізіі"... Маладзіца рагатала: — Н-я-м-а-л-а, можа быць, але ў майго Стэфка куды больш, так што, пане Мікусь-Выкусь, да супружанькі-Грушанькі сваёй ты і ш-п-а-р, ц-я-ш-ы быстранька!..

І, як бы нічога не бывала, яна радасна працягвала:

— А што гэта вы да нас не заходзіце, казакі-разбойнікі? Ад хрысцін дарогу забылі?

— А на цябе, Улька, глянуць страшна, Стэфак-вырвідуб зараз налупіць-нахлабустае!..

— А ты лапішчы свае дзяржы пры сабе, Ванюша, твоей Настулькі няўжо табе мала? І спакойна прыходзь, нашым шчасцем падзелімся, раскажам...

— Да вас ісці, як на поезд у далёкі Бердычаў сесці, не вернешся, Стэфак жа — валігара прыб'е адной ручышчай-гірай...

— За спадніцу мяне хапаць не будзеш — у жывых астанешся, Ромчык, няўжо Вольга твая часта табе не пазваляе?.. Прыходзьце, балабоны-баўтуны, чарачку знойдзем, трох мушкецёраў нашых, хлопчыкаў-саколікаў пакажам, пахвалімся... Растуць яны, сілачыкі нашы — малойчыкі, як на дражджах!..

І п-а-й-ш-л-а яна да суседзяў па ваду, да крыніцы крыштальнай, усім вядомай, каромыслы і вёдры на плечы ўскінуўшы, станам гібкім калышучы-гойдаючы, п-а-п-л-ы-л-а, як па вадзе каячок-лодачка, гэтак роўненька; паванькай гордай п-а-н-е-с-л-а-с-я, галаву выпраміла; далей п-р-а-т-а-н-ц-а-в-а-л-а гусынькай белакрылай у блюзачцы-сняжынцы чысценькай, і з-а-с-п-я-в-а-л-а-залілася, уцешылася: „Ой, пры лужку, пры лужку, пры шырокім полі, пры знакомым табуне конь гуляў на волі, пры знакомым...".

* * *

Успаміны прыйшлі да „тройцы" на лавачку... Якое ж вяселішча было ў Стэфка і Улькі! Якія потым, у свой час, хрысцінушкі трох будрысаў-цыганчыкаў-хлапчукоў!.. Ашчасліўіліся Рыбчынскія за ўсе гады Стэфкавай нядолі-плачу, калі прыйшла да іх Улька... Дзесь з-пад Сямятыч родам, хаця ўсе ўжо зналі-ведалі — роду-та ў яе як раз ніякага і не было, з сіроцтва яна, з дому дзіцячага, дзяржаўнага. Дзівавалася акаліца, што такая красуня-лебедзь белая, шчэ й недзе з горада-мястэчка, без намыслаў доўгіх, за вясковага пушчанскага зубра-квазімоду тутэйшага пайшла!.. Вядома толькі было ў падляскоўі, што маладыя на Святой Гары Грабарцы спаткаліся, пабачыліся, пазнаёміліся...

Прывёз яе, было, Стэфак да бацькоў, раз ці два, мо болей, яна ў іх і назаўсёды асталася, замуж за яго радасна пайшла, не злякалася — як тутэйшыя дзяўчаты-каралевы, што толькі ў горад за красавунчыкаў-шпінгалетаў наровілі падацца... Не пабаялася Улька Стэфкавых бародавак, на белыя журавіны падобных, урараджаных, што побач у пушчы на балоціста-вадзяных купінах моху разлажыліся, даспяваюць, чырванеюць... Бо Улька глянула на Стэфка не з боку, крыва, бародаўкі лічачы, з люстэркам-біноклем-мікраскопам, не на тварныя гарошыны ўпярлася, а за сінь ільняную, у вейках цяністых, даўжэзных, яго двух вачэй-азярцоў ухвацілася, да сэрца з першага кроку прытулілася з ласкай, цеплынёй, сардэчнасцю, любоўю...

І трох сыноў, махам адным, Улька нарадзіла, Стэфка ўзбагаціла, дом увесь шчабятаннем напоўніла. Бацькі Рыбчынскія голасна, перад усімі, цешыліся, што другое, як сын іх, золата засіяла ў іх хаце; што нявестку яны адразу сардэчнай донечкай-душачкай назвалі; што яна з усім паспявае, ва ўсім радзіцца-пытае; што з работай яе затрымліваць трэба, цяжарная ж! Што яна на працу хатнюю, гаспадарскую з усмешкай рвецца, выходзіць; што да сяўбы, касьбы, жніва, агародняй праполкі, бульбы — бяжыць, усё знаючы, як бы сельскагаспадарчы інстытут які кончыла... Гора-бяда, сіроцтва, відаць, усяму навучыла, яна ж яшчэ настаўніцай была...

А Стэфка на ўсё гэта глядзеў, ш-ч-а-с-л-і-в-ы! — ды на ўсякія пытанні „як жывецца-любіцца?" вясняным жаваранкам адспеўваў: „А в остальном, прекрасная маркиза, всё хорошо!" Глядзелі наўкольныя на хлопца і, як бы, ц-я-п-е-р, барoдавак яго больш і не заўважалі, перастаўшы і маніць яго славутай Бародаўкай, бо для ўсіх ён ужо стаў Стэфкам Рыбчынскім, сынам Параскі і Філіпа...

* * *

Апрача бацькоў Рыбчынскіх, ніхто ў вёсці і не ведаў, як гэта было дакладна з маладой парай. А здарылася гэта пад вечар Спасаў на Святой Грабарцы. Дзень быў тады цэлы сонечны, парыла, на дождж бралася... Стэфак, абмыўшыся манастырскай вадой з рэчкі-крыніцы, рашыў пайсці ў галоўны храм з паклонам да Святой Іконы Багародзіцы Афонскай, што прыбыла сюды з Грэцыі. Калі ён уцерся ручнічком і, паводле звычаю, вешаў яго на корчык — дзе іх, хусцінак, было ўжо сотнямі — х-т-о-сь выразна і моцна крануўся рукою да яго левага пляча!.. Ён павярнуўся пабачыць, але нікога побач н-е б-ы-л-о! Далей толькі, якаясь незнаёмая дзяўчына паказвала камусь Стэфка пальцам... Ён нахіліўся ўзяць торбу, калі пачуў ласкавы Жаночы Голас: „Бяжы ўвысь, хлопча, пад новы дом-трапезу, спяшайся, там дзіцё, яна!..". Ён рвануў па высокіх сходках-ступеньках, праз людзей, што адны абураліся: „Шалёны якісь!", іншыя ўскрыквалі: „Пазабіваеш нас, чалавеча!", а ён бег, бліскавіцай гнаўся!.. Вось, новая трапеза, наўкругі нічога не бачна: стаяць бацюшкі, незнаёмыя людзі, ганяюцца ў дагонку-бэрка чыесь дзеці... Што ж такое, зноў Г-о-л-а-с: „Глянь, дажджавы люк не закрыты!.." Стэфка абамлеў: перад ім, тут жа, ва ўлаз, з бегу, ляцела хлапчаня!.. Стэфка сігануў на калені, перахіліўся да палавіны, крыкнуў яму: „Ручкі падымі!". Схватануў малыша за кашулю, рукі... в-ы-ц-я-г-н-у-ў!.. Дзіця было больш здзіўлена чым пералякана ад гэтай эквілібрыстыкі, не плакала, дзівавалася... — Чый хлопчык? — крыкнуў, закрываючы жалезнай кладдзю дажджавую яму, Стэфак. Ніхто не адклікнуўся, дый хлапчук ужо знік, пабег, пэўна, да бацькоў, якія ў далі закрычалі на шмаравоза: „Дзе ты паспеў ужо гэтак замурзаціца?". Малеча махаў рукамі, гаварыў пра яму, штосьці паказваў, казаў пра нейкага барадатага дзядзьку, каб пачуць ад бацькоў, што былі разгараваліся аб бельм свеце са знаёмымі: „Выдумаў... зноў вершамі гаворыць, каб біткy за балота, у якое ўкалапуцькаўся, адвесці, арыштант!..".

Стэфка моўчкі пайшоў на рэчку памыцца. Ён не заўважыў, як за ім спяшалася дзяўчына, што ўвесь час была каля ямы, побач яго і ўсё з дзіцём бачыла. Яна адразу звярнула ўвагу на велічнага, як цыгана чорнага хлопца, які ад царквы рваўся-бегляцеў сюды пад трапезу. Яна й падумала: „Цыгана гоняць? Няўжо абакраўся? На добрага выглядае?". Усё потым валілася, падала ў секунду пры вадаёме!.. Хлопчык... Хлопец, які светлы, ясны... Яна пайшла за ім як за магнітам на рэчку, у храм, бачыла, як ён сардэчна маліўся, як успакойваўся, слёзы выціраў...

працяг ☞10

9 ☞працяг

# БАРОДАЎКА

Ён пакланіўся да зямлі і зноў пачуў, цяпер на шчоках, цеплыню Ч-ы-і-х-сь-ц-і Рук, якія г-л-а-дз-і-л-і яго барадаўкі, як калісьці, у дзяцінстве, яго мама, Параска, а ён, маленькі, плакаў... Г-э-т-а-к было з ім і ў Пачаеве перад Стопкай Божай Маці, нядаўна, і калісь у Нараўцы — тады Ікону Святую з-пад іканастаса спускалі, тожа Пачаеўскую, на пакланенне, маленькі Стэфка сказаў: „Божа Маці да нас з неба сходзіць" і в-ы-р-а-з-н-а пабачыў, што Царыца Нябесная тады да яго ласкава ў-с-м-і-х-н-у-л-а-с-я!..

Песню-малітву, што ў Нараўцы любяць, Стэфак і цяпер тут, на Гары Святой, з сэрца Дзеві Марыі прыносіў: „Калі час прыходзіт, у бедах Ця прасіці, не ізволь-жа, Дзево, ліца атвраціці, будзі з намі дзень і н-о-о-ч, дарўй нам Сваю помашч, о-о, Марые!.. Ісусе Сладчайшы, к Цябе прыпадаем, і мы, Твае слугі, молім Ця, благаем: не дапускай на нас кары, злівай на нас Свае дары, і памілуй нас, і п-а-м-і-л-у-й нас!..".

Да Стэфка падышла, адважылася, тая дзяўчына, і сказала: — Я была там, дзіця загінула б, каб не вы!.. Мо бацькоў знайсці?..

— Навошта? — сказаў Стэфка. — Мне падзякі не трэба, дый не я, г-э-т-а!..

Яны выйшлі з царквы, разгаварыліся, а Стэфка спытаў:

— Вы не баіцеся са мой, адлюдкам, гаварыць?

— А ў чым страх? — усміхнулася яна.

— Я ж, прыгляньцеся, каб не шкадавалі...

— Мяне завуць Улька, Уршуля, — сказала на гэта дзяўчына і працягнула абедзве рукі.

— А мяне Стэфкам клічуць...

Пазванілі на Службу, і яны пайшлі спатыкаць Блажэннейшага Мітрапаліта Саву і іншых Уладыкаў, пайшлі разам, пайшлі радасна. Стэфак узяўся несці яе торбу, не адрываў ад яе вачэй; ішоў — не глядзеў пад ногі, спатыкаўся, ледзь не паляцеў на нос камальганам разоў два-тры, карэнні дрэў тут! Яны абое голасна рассмяяліся... „Ціха! — сыкнуў хтосьці. — Месца знайшлі!". А яны зоўсім расклакаталіся яшчэ галасней — праўда ж, неўпапад, на Святым Месцы, а як сябе ўстрымаеш? І яны, узяўшыся за рукі, пабеглі ўніз, да вялікай брамы...

Усе Службы праспявалі разам, прычашчаліся, паелі разам, торбы свае вылажыўшы... Стэфак адвёз Ульку ў Нурэц, там яна жыла, блізка, запрасіў — асмеліўся — да сябе, у пушчу: прыедзеш, гэта ж недалёка...

— А што ц-я-п-е-р далёка, Стэфак? Да Нараўкі па шпалах каляёвых прыбягу, п-р-ы-м-е-ш?..

— А я за табой, да цябе, прыеду, калі дазволіш, з-а-ў-т-р-а можна?..

* * *

Стэфак ездзіў у Нурэц раз-пораз, праз дзень, праз ноч... „Да нас ці яна захоча?" — спыталі бацькі. Рыбчынскія глянулі на дзяўчыну, калі Стэфак увёў яе ў дом, і тут жа вачамі сказалі, імя ў сабе: н-а-ш-а!.. Не выпусцім, не а-д-д-а-м-о!.. Разгаварыліся.

— Мо я што памагу? — спытала Улька.

— Чай хоць налью!

Стэфка дрыжаў увесь, зачапіўся за крэсла, рассыпаў цукар, усе рассмяяліся.

— Ды падмяту я, нічога, мужчыны такія няўважныя, — сказала Улька.

А Стэфка і талерку сваю скінуў на падлогу, бедалага, расхваляваўся...

— Ты гэтак з першага разу, дачушка, — спыталі бацькі, — будзеш з намі? Калі згодна, ці паездзіце шчэ да сябе трохі? Нам бы сёння в-я-с-е-л-л-е! Стэфак у нас, Улька, добрае дзіця не таму толькі што наш!.. Жэнімся, значыць, дзеці, г-у-л-я-е-м, ваколіцу просім! Стэфак спраўдзіў, Улька, месца ў школе ёсць!.. Вось і сватоў не трэба, калі твая згода ёсць, Стэфак жа ўсе гэтыя дні сіяе! Ды каб толькі хто нам вас не ўрок, паганец які, шкадлівец!.. Ну, сваякоў клічам!..

— А ў мяне нікога... — засаромелася Улька.

— Ды ты ж, дзетачка, Нурэц цэлы, Сычы і Грабарку прасі з Машчонай-Панскай разам, Гару Святую ўсю з манашкамі, бо Грабарка Спасава нам цябе, чадунюшка, і ссылае!.. Прыйдзеш да нас, Улька? Да Стэфка, які, як бачыш, зусім расклеіўся, на цябе глядзячы!.. Згодны, значыць!.. Аркестр, Стэфка, філармонію цэлую заказвай, частунак-абед — на сябе бярэм, выпішам, месца знойдзем, мо ў Семяноўцы калі ў Нараўцы замала месца будзе, бацюшку Мікалая адтуль з дапамогай папросім, нашых: Аляксандра і Георгія сардэчна ўключым... Т-а-н-ц-у-е-м, людзі ой, як тупаць, спяваць пачнем, будзем!..

* * *

Ніхто цяпер у хаце Рыбчынскіх не смуціўся... «Свадзьба пела і плясала», як спяваў калісь Муслім Магамаеў... Хлапчукі тут праз год прыкрычалі, адазваліся, есці дамагацца пачалі — галадняні! Гасподзь т-р-а-й-н-ё-й благаславіў!.. А-Бэ-Вэ іх назалі, па-школьнаму, па-алфавітнаму, як папрасіла Улька: Антошка, Барыська, Валодзька. Так іх і клікалі, лентачкі розныя, для пазнакі, прычапілі. А Улька смяялася: мне не трэба, і так ведаю — каторы каторы... Так за імі на траву садовую выходзілі-ззывалі: — А-Бэ-Вэ, дахаты, есці! Калі падраслі, пабеглі, панесліся, паляцелі... Бягуць, злятаюцца, вераб'ята, яду малоцяць, маці ды бабулю з мужчынамі апетытам радуюць, цешаць. Дзеду слёзы радасці наганяюць, бацьку за бараду і чупрыну кадлышаць, разам з ім па тапчанах, дыванах, на падлозе качаюцца, вішчаць, рагочуць!.. Ш-ч-а-с-ц-е!.. Ім тут жывуць, яго тут не мераць ні кілаграмамі, ні мятроўкай краўцоўскай бабкі Параскі!..

Будзеце калі ў нашых краях, людзі добрыя, спытайцеся Рыбчынскіх: як яны навучыліся ад калыскі сыноўскія барадаўкі цалаваць — к-о-ж-н-у-ю! — п-а а-д-дз-е-ль-н-а-с-ц-і! Даведайцеся ў Улькі, як яна якраз была стала каля ямы-люку пры грабарскай трапезе — доме новым. Пабачце пасля дажджу: адзін канец радугі-вясёлкі, тэнчы — як у нас кажуць, упіраецца-ўваходзіць кожны раз у хату Рыбчынскіх. Спраўдзьце: пабачыце — тут пасялілася казачная жарптушка, назаўсёды, і не адлятае яна ні ў якія цёплыя краіны, і не думае, тут гняздо звіла, птушанятак сваіх гадуе... Падзівіцеся, як любоў-каханне тут задамавілася і пасмам сонечным усё саграває... Пабудзьце доўж, прыслухайцеся, можа і вы пачуеце тут той Дзіўны Г-о-л-а-с, што на Грабарцы Святой дзіця с-п-а-с; сярод тысячаў народу пад трапезаю Стэфку і Ульцы спатканне **прыгатовіў**... Ён у-с-ю-д-ы бывае, **гаворыць**, вы толькі ўласцівы «канал» свайго сэрца ўключыце, свой «тэлевізар» — сэрца сваё, значыць, пастаўце, надавайце — прымайце дабравешчанне, хай там яно «абанементам» стане, тады і вы **Руку Цёплую**, што кранулася Стэфкавага пляча і, па-мацярынску паласкала-пагладзіла-**благаславіла** яго твар-ліцо, на сабе **пачуеце**... Не адкладвайце, жыццё ж кароткае!..

**Марыя САШКА**

---

Беларуска-Эўрапейскае задзіночаньне

# http://bielarus.eu

За гады панавання Лукашэнкі ў Беларусі мноства тамтэйшых жыхароў былі вымушаныя з'ехаць з краіны, ратуючы сябе ад палітычнага праследу. Адной з краін, дзе за апошнія 15-20 гадоў значна ўзрасла колькасць нашых супляменнікаў, ёсць Бельгія. Новая хваля палітычнай эміграцыі прынесла новы подых у жыццё не толькі ўласна беларускай дыяспары, але і адбіваецца на тамтэйшай палітыцы. Пацвярджэнне гэтаму мы можам пабачыць на сайце, які мае назву „Беларуска-Эўрапейскае задзіночанне" і месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://bielarus.eu**

Калі цікаўны карыстальнік зазірне на даны сайт, то перад яго вачыма адкрыецца не надта прываблівая, не кідкая ў вочы выява выключна інфармацыйнага сайта без якіхкольвечы разнастайных аздабленняў. Суцэльны тэкст, падзелены на рубрыкі і тэмы, упрыгожваюць хіба толькі фотаздымкі, якія можна нават лічыць адной з найбольшых вартасцей сайта. Менавіта фотаздымкі часам больш за тэкст распавядаюць пра тую ці іншую падзею, якую яны адлюстроўваюць.

Галоўная старонка сайта, зважаючы на даты паведамленняў, абнаўляецца не надта часта. Прыкладна, не часцей чым раз на месяц. Але гэтага дастаткова, каб убачыць, што беларусы ў Бельгіі заняты не толькі здабываннем хлеба надзённага, але ім хапае часу і на расповед пра свае справы. Так, апошняй вартай іх увагі падзеяй у беларускім замежным жыцці стала заява Рады БНР пра Будапешцкі мемарандум, што быў па сутнасці скасаваны яго гарантамі — Расіяй, ЗША і Вялікабрытаніяй, якія не зрабілі аніякіх дзейсных крокаў для захавання тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны, хоць і абяцалі.

Увогуле ўладальнікі сайта даволі многа месца адводзяць рэакцыі на падзеі на Украіне. Прычым гэта выражаецца не толькі ў акцыях пратэсту супраць расійскай агрэсіі і публікацыі разнастайных матэрыялаў на даную тэматыку, але і рэальнай дапамогай украінскім вайскоўцам, што змагаюцца за сваю радзіму. Так, у леташнім верасні тамтэйшыя беларусы набылі на выставе ваеннай амуніцыі ў бельгійскім горадзе Іпры партыю рэчаў для ўкраінскіх вайскоўцаў. Сродкі былі сабраны беларусамі Бельгіі, Францыі і Нямеччыны.

„Беларуска-Эўрапейскае задзіночанне" не пакідае ў баку і духоўнага жыцця. Праўда, яно ў задзіночанні даволі спецыфічнае — выключна ўніяцкае. Гэта даволі дзіўна, бо ўсё ж такі большасць беларусаў прытрымліваецца праваслаўнай веры, і да таго ж у свеце ёсць хай сабе спрэчна кананічныя, але ж беларускія праваслаўныя прыходы. Таму, падаецца, што ў даным выпадку бельгійскім беларусам не варта забываць гэтую акалічнасць, і не прадстаўляць на сваім сайце толькі грэка-каталіцкую канфесію.

Калі ж ацэньваць сайт агулам, то, прайшоўшы па яго старонках, бачна, што яго ўладальнікам было б карысна надаваць яму больш увагі, чым яны робяць гэта цяпер, бо шмат матэрыялаў дублюецца ў некалькіх рубрыках, няма больш-менш падрабязнай інфармацыі пра беларускую грамаду ў Бельгіі, яе арганізацыю і кіраўніцтва. Напрыклад, раздзелы „Навіны Беларусі", „Духоўнае жыццё", „Навіны дыяспары" хоць нібыта падзяляюцца, але змяшчаюць адны і тыя ж звесткі. Такая акалічнасць, несумненна, пагаршае агульнае, даволі пазітыўнае ўспрыняцце сайта.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

ДАТА З КАЛЕНДАРА

Доўгі шлях паўстанца

# 85 гадоў з дня смерці Бенядыкта Дыбоўскага

Выдатны навуковец і патрыёт свайго краю Бенядыкт Дыбоўскі нарадзіўся 12 траўня 1833 г. у фальварку Адамарын паблізу вёскі Дубрава (Маладзечанскі раён). Бацька працаваў аканомам у маёнтку Адама Хмары, а маці паходзіла з заможнага роду Пшысецкіх. Бацька быў актыўным удзельнікам паўстання 1830 г., выхаваў сыноў і дачок у патрыятычным духу. Усе сыны закончылі Дэрпцкі ўніверсітэт і заняліся навукай. Раней Бенядыкт закончыў Мінскую гімназію. Пра гэта сведчыць пастаўленая ў наш час шыльда на будынку мінскай гімназіі № 2.

Яшчэ студэнтам займаўся даследаваннем рыб Прыбалтыкі. Пасля заканчэння ўніверсітэта атрымаў ступень доктара медыцыны і хірургіі. Хацеў стаць выкладчыкам. Але за ўдзел у дуэлі секундантам, у дэманстрацыі супраць расійскай улады ў 1857 годзе і ў падпольных гуртках быў выключаны з універсітэта без права паступлення ў любыя іншыя навучальныя ўстановы Расіі. Бенядыкт пераехаў жыць у Нямеччыну, дзе вывучаў эмбрыялогію насякомых на кафедры Берлінскага і Вроцлаўскага ўніверсітэтаў. Там жа ён абараніў дысертацыю. У 1862 годзе становіцца прафесарам заалогіі і параўнальнай анатоміі Галоўнай школы ў Варшаве. З пачаткам паўстання вяртаецца на радзіму і бярэ актыўны ўдзел у ім, займае кіруючыя пасады на Віленшчыне. У час паўстання быў затрыманы і асуджаны спярша да павешання, а пасля да дванаццацігадовай высылкі ў Сібір.

Бенядыкт Дыбоўскі і яго лепшы сябра Віктар Гадлеўскі разам даследавалі возера Байкал і раку Амур цягам усяго тэрміна зняволення. Яны першыя правялі даследаванне глыбіні Байкала, сабралі багатыя малюнкі рыб Амура, Інгады і іншых рэк Забайкалля, збіралі лекавыя расліны, займаліся вывучэннем ракі Ангара і возера Касагол.

Пасля вяртання на радзіму ў 1876 г. іх чакала слава даследчыкаў Сібіры. Увосень 1877 г. Дыбоўскі прыехаў у Варшаву. Ён жыў сваёй навуковай дзейнасцю, адкрыццямі і не мог проста так пакінуць нясконччанай шматгадовую даследчую працу Сібіры.

У чэрвені 1879 г. за свае грошы ён прыязджае ў Петрапаўлаўск-Камчацкі, дзе працуе доктарам і адначасна займаецца даследаваннем фаўны краю. У 1883 г. па запрашэнні Львоўскага ўніверсітэта пераязджае ва Украіну. З сабой з Камчаткі Дыбоўскі перавозіў скарб усяго жыцця — разнастайную калекцыю вагой 116 цэнтнераў! Праз 20 гадоў пасля ад'езду з Камчаткі яму даслалі падарунак у Львоў — поўны шкілет марской каровы датаваны XVIII ст., пошук якой безвынікова ён вёў на Камчатцы.

У Львове ва ўніверсітэце Бенядыкт Дыбоўскі працуе кіраўніком кафедры заалогіі, стварае музей.

Але здарыўся канфлікт Дыбоўскага з кіраўніцтвам з-за прыхільнага стаўлення прафесара да тэорыі Дарвіна і 73-гадовага вучонага выпхнулі на пенсію. Дыбоўскі вяртаецца на радзіму, у Беларусь, у маёнтак сястры ў Войнава. Пачынаецца Першая сусветная вайна, і паколькі Львоў раней знаходзіўся на тэрыторыі Аўстра-Венгрыі, а Дыбоўскі быў аўстрыйскім падданым, прафесара высылаюць зноўку ў Іркуцк.

Пасля заступніцтва Пецярбургскай акадэміі навук і Імператарскага геаграфічнага таварыства Дыбоўскі вяртаецца назад у Войнава. Пасля таго як тэрыторыя Беларусі была цалкам занятая нямецкімі войскамі, ён атрымаў дазвол на вяртанне ў Львоў.

Пражыў Бенядыкт Дыбоўскі 96 гадоў, пахаваны на Лычакоўскіх могілках Львова ў некропалі паўстанцаў 1863 года.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

1 ☞працяг

# Нараўка стаіць мастакамі

рыі і традыцыі Нараўчанскай зямлі Кацярына Рэент, якая штодзень працуе ў святліцы комплексу школ, узнікла мадэль Нараўкі стогадовай даўнасці з домікамі з гліны. Была яна паказана ў варшаўскай сінагозе імя Сужонства Ножыкаў у 2007 годзе і там выклікала вялікую цікавасць. Кацярына Бляўская прысутнічала тады на прэзентацыі:

— Амбасадар адной афрыканскай краіны не мог адарваць ад макета вачэй. Ён быў зачараваны і нават абвясціў, што калі вернецца ў сваю родную вёску, яго племя таксама вылепіць з гліны такія домікі, якія знаходзяцца ў іх.

Кацярына Рэент:

— Мадэль мы падрыхтавалі ў рамках праекта „Аднавіць памяць” Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны. Такім чынам напамінаем пра яўрэйскае насельніцтва, якое пражывала на нашай тэрыторыі. Ідэя з'явілася ў мяне. Вялікай дапамогай і ведамі служыла нам Кася Бляўская. Прадставіла нам рысункі і план Нараўкі пачатку ХХ стагоддзя. Мы паглядзелі старыя фотаздымкі. У сувязі з гэтым мы зрабілі тур па Нараўцы. Некаторыя дамы яўрэйскай пабудовы з той эпохі захаваліся, хоць і ў парэшткавай форме. Таму што недалёка, у Ляўкове, працуе керамічная фабрыка, мы вырашылі зрабіць для макета домікі з гліны, якая з'яўляецца адносна лёгкім матэрыялам для фармавання і прыемным для працы. Аснова макета — з дрэўніны. Хаткі разныя, але не выпальваныя. Мадэль мы паказалі да гэтага часу ў нашай школе. Тым не менш усе, хто хацеў, меў магчымасць убачыць яе. Выкарыстоўвалася яна для ўрокаў гісторыі і рэгіянальных ведаў.

Спадарыня Кацярына прадставіла маленькія фігуркі пажылых людзей, старанна створаныя з гліны. На выставе прыцягвалі ўвагу, між іншым, фатаграфіі **Агнешкі Лукшы**, вельмі прафесійныя ў планах. Іх аўтарка, на жаль, не магла быць на вернісажы. Пра аўтарку і яе працы Кацярына Бляўская сказала нам:

— Яна ўжо прызнаны фатограф. Родам яна з Нараўкі, але жыве ў Варшаве. Калі глядзім на яе фатаграфіі, складваецца ўражанне, што гэта мастацкі дакумент.

Драўляныя вясковыя хаты і мясцовы краявід з ваколіц Белавежскай пушчы, у сваю чаргу, з'яўляюцца прадметам карцін Паўла Карпюка, выпускніка Акадэміі жывапісу і малюнку ў Любліне, які нарадзіўся ў Нараўцы, але ўжо тут не жыве. А народжаная ў Семяноўцы, праводзіўшая ў дзяцінстве канікулы ў бабулі ў Нараўцы, выпускніца фатаграфічнай школы, якая працуе ў адным з фатаграфічных агенцтваў Беластока **Эвеліна Сімаковіч** паказала фотаздымкі дзяцей, у тым ліку некалькі спрэчных здымкаў, як нованароджаных блізнюкоў у абдзертай металічнай місцы:

— Фатаграфую дзяцей, таму што яны самыя салодкія і найфайнейшыя, і, як ні дзіўна, праца з імі перад фотаапаратам не такая простая. На гэтай фатаграфіі брацік і сястрычка паказаны ў гэтай місцы так, як былі ў жывоціку мамы. А тая міска таму, што ў такіх калісь купалі дзяцей. Мне падабаецца спалучаць фатаграфаванне дзяцей са старымі прадметамі, як з гэтай жа міскай. Мне падабаецца выкарыстоўваць старыя каляскі, роварчыкі і г.д. Як першая ў Беластоку я пачала рабіць мастацкую фатаграфію немаўлят.

**Галена-Марыёля Рэент**, дырэктарка ГЦК, філіялам якога з'яўляецца галерэя, адкрываючы выставу, сказала:

— Пры падрыхтоўцы выставы мы не ведалі, што ў нашай гміне апрача шматлікіх паэтаў, якія расслаўляюць яе, ёсць многа асоб, што займаюцца выяўленчым мастацтвам. Маем творчую гміну!

У размове з „Нівай” дырэктарка дадала:

— Я сама знаходжуся пад уражаннем, што іх ёсць так шмат, і як многа паказана на выставе тэматыкі і тэхнікі. Мы будзем працаваць над цыклічнымі выставамі ў зімовы перыяд перад школьным перапынкам, калі прыязджаюць да нас турысты: і моладзевыя групы, і аматары пабыўкі на агракватэры. Мабыць, хтосьці праз пасрэдніцтва «Нівы», хто родам згэтуль і ўжо тут не жыве, а штосьці стварае, даведаецца пра выставу і схоча ў нас паказаць свае працы. Мы будзем рады.

Падчас вернісажу войт **Мікалай Павільч** (прысутнічаў таксама старшыня Рады гміны Андрэй Нядзведзь) сказаў нашай газеце:

— Выстава паказвае, што многія людзі ствараюць у зацішшы сваіх дамоў і ў многіх з іх ёсць мастацкі талент. Выстава патрэбная хаця б для таго, каб не гаварыць: „Чужое хваліце, свайго не ведаеце”. Калі людзі хочуць прадставіць свае работы шырэй, неабходная падтрымка, і наша галерэя з'яўляецца найбольш прыдатным месцам для іх папулярызацыі. І няхай як найбольш талентаў у нашай гміне праяўляецца!

Раней у час адкрыцця выставы сказаў:

— Калі ў кагосьці яшчэ былі сумненні ў тым, нашто ў Нараўцы галерэя, цяпер напэўна ўжо іх не мае. Таксама шматлікая прысутнасць публікі на вернісажы аб гэтым сведчыць.

Пры нагодзе размовы з „Нівай” войт заявіў, што ў лютым і сакавіку ў час сустрэч з жыхарамі гміны — перад выбарамі салэцкіх рад і солтысаў — зноў будзе магчымасць пагаварыць аб увядзенні на тэрыторыі гміны ўказальнікаў з двухмоўнымі назвамі населеных пунктаў.

— Тры гады таму большасць жыхароў гаварыла, што яшчэ не цяпер, але не сказала рашучага „не”, і што гэта не варта, што гэта не мае сэнсу. Мабыць, тры гады нешта змянілі ў іх стаўленні да справы двухмоўных указальнікаў.

❖ **Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Конкурс „Пазнай Беларусь – 2015”

для дзяцей і моладзі асветных і культурных устаноў Польшчы

**Тэрмін правядзення конкурсу**

**І этап**: 12 студзеня 2015 г. — 5 красавіка 2015 г. прыняцце для разгляду матэрыялаў;

**ІІ этап**: 6 красавіка 2015 г. — 30 красавіка 2015 г. падвядзенне вынікаў конкурсу.

**УМОВЫ КОНКУРСУ:**

У конкурсе могуць прымаць удзел дзеці і моладзь, творчыя калектывы, гурткі асветных і культурных устаноў Польшчы ва ўзросце ад 5 да 19 гадоў (намінацыі конкурсу маюць чатыры ўзроставыя катэгорыі: 3-6 гадоў, 7-12 гадоў, 13-15 гадоў, 16-19 гадоў).

Да ўдзелу ў конкурсе прымаюцца працы на беларускай і польскай мовах. Вітаецца арыгінальнасць і творчы падыход да афармлення.

**Намінацыі конкурсу:**

— малюнак, пластычная праца пра Беларусь у свабоднай тэхніцы;

— фотаздымак аб Беларусі ці беларусах;

— літаратурны твор „Беларусь і беларускасць у гісторыі маёй сям'і”;

— паэтычны твор (верш);

— мультымедыйная прэзентацыя аб Беларусі.

**Да работ дадаецца наступная інфармацыя:** імя і прозвішча, узрост удзельніка, адрас для карэспандэнцыі, назва асветнай ці культурнай установы.

**Прызы і ўзнагароды**

Па кожнай намінацыі вызначаюцца пераможцы па ўзроставых катэгорыях з прысуджэннем дыпломаў першай, другой і трэцяй ступені. Пераможцы конкурсу ўзнагароджваюцца каштоўнымі прызамі.

**Адрас для карэспандэнцыі**:

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы вул. Варшаўская, 11 15-062 Беласток тэл.: 85 743 51 18, факс. 85 743 57 18

# Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. цяжа з жалезных прутоў, якая мацуе аглоблю з воссю = 14 _ 18 _ 19 _ 11 _ 7 _;

2. дробныя каляровыя бліскучыя пацеркі, якія ўжываюцца для ўпрыгожвання адзення = 8 _ 29 _ 26 _ 20 _ 13 _;

3. прадмет харчавання = 9 _ 21 _ 22 _;

4. японская разнавіднасць будызму = 25 _ 24 _ 6 _;

5. абмежаваная спецыфічная тэрыторыя = 10 _ 12 _ 3 _ 2 _;

6. чало = 28 _ 27 _ 23 _;

7. лясная пеўчая птушка, якая водзіцца ў... гмінная мясцовасці між Орлям і Нарвай = 4 _ 5 _ 1 _;

8. гамана або дынамічная пена = 17 _ 16 _ 15 _.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | ■ | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | 17 | 18 | 19 | ■ | 20 | 21 | 22 |
| | | 23 | 24 | 25 | | 26 | 27 | 28 | 29 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 2 нумара**

Лухта, рамяство, луг, Зея, далонь, туга, памідор, Мінск, рэзус, лой, сто, Заблудаў.

Рашэнне: **Хто гуляе змоладу, той памрэ з голаду**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 01.02 — 07.02

**(22.03. — 20.04.)** Пад уплывам Марса (аж да 20.02.) будзеш неўтаймаваны, амбітны, з поспехам пазмагаешся за сваё і папхнеш уперад усе справы. Трымай вочы шырока адкрытыя; на гарызонце хтосьці цікавы! Зловіш добры кантакт з асобай, якая гаворыць шматсэнсоўна; даведаешся пра штосьці вельмі важнае. Задбай аб дыету. Схадзі на фізкультуру ці рэабілітацыю.

**(21.04. — 21.05.)** Трымай нервы на павадку, каб не пашкадаваць слоў выказаных у гневе. Знакамітая атмасфера дома, мілыя сустрэчы з сябрамі. Добра высыпайся, адпачывай. Магчымыя непаразуменні з каханай асобай; не расстаньцеся ворагамі. Будуць людзі, якія схочуць цябе павучаць. З 6.02. (да 10.02.) будзеш мець многа сілы і трываласці; салідная праца прынясе цудоўныя рэзультаты.

**(22.05. — 22.06.)** 03-07.02 добрая форма, трапныя рашэнні, разумны выбар. Вазьмі справы ў свае рукі, першы прызнайся ў каханні. У здароўі лепш асцерагацца, чым лячыцца. Люты добры на перыядычныя абследаванні, ідзі да лекара ў кожнай справе. Блізняты з мая будуць наракаць на нервы, пазваночнік і калені. У пачуццях гавары, што адчуваеш. Увесь люты добры для асоб амбітных, якія не баяцца выклікаў.

**(23.06. — 23.07.)** Будзь адкрытым на прапановы партнёра. Перажывеш цудоўныя хвіліны. 3-5.02. (поўня Месяца) можаш захапіцца дзеяннямі, якія не прынясуць вынікаў; пачуццё бездапаможнасці можа адняць волю змагацца. Больш увагі прысвяці здароўю. Слабейшыя ў лютым твае стрававальны шлях і рух. Пераканаешся, што варта было салідна працаваць за апошнія месяцы.

**(24.07. — 23.08.)** Зможаш зрабіць важныя змены. Не спяшайся, рабі ўсё ва ўласным рытме. Дазволь партнёру пераняць ініцыятыву. Будзеш мець дар засяроджання на сабе ўвагі, схільвання да сябе людзей і здабывання іх сімпатыі. На працы заззяеш кемлівасцю і ахвотай рэалізаваць арыгінальныя праекты. З 6.02. (да 10.02.) прыбудзе табе моцнай волі і паспяховасці; можаш здзейсніць нешта важнае.

**(24.08. — 23.09.)** 3-7.02. варта даверыць людзям, якія запрапануюць табе дапамогу. Добры час на падарожжы і афармленне нуднаватых абавязкаў. Мілыя сустрэчы з сябрамі. Будзеш вельмі ўражлівы ўвесь люты на фазы Месяца (бяссонніца). Прарочыя сны (запісвай іх). 4.02. будзеш пабуджаны і неспакойны, будуць турбаваць пячонка, болі жывата, галавы. Цёпла апранайся і пі многа вадкасцей. 3-5.02. сачы за калегамі на працы — хацеўшы табе дапамагчы, могуць зашкодзіць.

**(24.09. — 23.10.)** Магчымыя праблемы ў падарожжы, неадназначныя сітуацыі. Вялікае пачуццё знойдзеш у неспадзяваным месцы. 3-7.02. размаўляй аб важных справах; пастаў на шчырасць. Энергія, укладзеная ў працу, не пойдзе марна, што не ўсім спадабаецца (3-5.02.); не падпарадкуйся тым, хто чакае, каб ты спатыкнуўся.

**(24.10. — 22.11.)** У пачуццях маразм. Рандкуй, аднак, да волі. 3-5.02. магчымыя сямейныя праблемы; дробныя расчараванні. А і на працы не ўсе пахваляць твае новыя задумы. Не рабі нічога праз сілу. У лютым будзеш патрабаваць захаплення і ўвагі для тваёй асобы. Знакаміты час на ўзмацненне сваёй пазіцыі ў прафесіі. А інтарэсы рабі 6-10.02., твая гаспадарлівасць прынясе цудоўныя вынікі.

**(23.11. — 22.12.)** Прысвяці больш увагі сваёй пары, каханне загарыцца мацней. У сям'і і сярод сяброў стаў межы. Больш адпачывай, прымай вітаміны і еж здаровае. Дзякуючы добрым кантактам лягчэй дойдзеш да таго, на чым табе залежыць (пільнуйся ад зайздроснікаў). 4-8.02. не чакай замнога і не прывязвайся да абяцанняў.

**(23.12. — 20.01.)** 1-2.02. можаш разгубіцца і мець праблемы са знаходкай адпаведнага рашэння. Але 3-7.02. знакаміты час на здабыванне новых ведаў і важныя рашэнні. Цудоўныя дні для пар з доўгім стажам. У здароўі шукай дапамогі ў спецыялістаў. Пі сокі з экзатычных пладоў і настойкі на травах. У першай палове лютага пазбягай язды самаходам (таксама як пасажыр), асабліва 4-8.02., тады праблемы з вушамі або зубамі; ідзі хутка да лекара, бо турбаваць цябе будуць пару месяцаў.

**(21.01. — 19.02.)** Вялікая энергія, энтузіязм, прыступіш да новых выклікаў і пакажашся. Не будзь лішне крытычным. Варушыся і еж здаровае. 5.02. вазьміся за змену харчавання — пойдзе гэта лёгка.

**(20.02. — 21.03.)** Выдатны час на любоўныя сустрэчы. Размаўляй. Адказнасць стане тваёй другой натурай. Іншыя могуць на цябе разлічваць. Але ў лютым трымай пачуцці на павадку, не ахвяруй іх падманшчыку. Могуць не ўдасца службовыя справы датычныя тваёй сям'і 3-7.02. Слухай лекара. Аж да 20.02. могуць распаліцца запальныя станы і інфекцыі, стрэс, старайся не перанатужвацца і не нервавацца, асабліва 3-5.02.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# Украіна
## ў цяні вайны (18)

Падляшша прывітала хмарай ментальнага дэбілізму

— А вы з кім трымаеце, па якім вы баку? — запатрабаваў адказу Марэк, — вы за Украінай, ці за Расіяй?

У яго голасе прагучала агрэсіўная нота прэтэнцыёзнасці.

— Дрэннае пытанне! — адказалі мы як найболей лагодна, быццам бы ластаўкі.

Марэк нічога не разумеў і ад здзіўлення прыадкрыў рот, а пасля спытаў:

— А чаму?

— А таму, што мы не спартсмены і не балельшчыкі!

Марэк не разумеў, што ў людзей могуць быць свае меркаванні, сумненні, назіранні ці проста асабістае меркаванне. Для яго была істотная адна праўда: ці ты наш — ці не наш?

Ды калі ў цябе іншы погляд, значыць, ты вораг... Расіі.

* * *

Тое, што прамаскоўская прапаганда трапляла ў праваслаўных палякаў Беласточчыны як нож у масла, мы ведалі даўным-даўно яшчэ да паездкі ва Украіну. Але тут, паміж Сарнакамі і Сямятычамі, з вуснаў маладых „гуманістаў", падобныя гутаркі здаваліся чыстым няшчасцем. Ды трэба было нам наткнуцца на гэтых Марка і Арка, каб больш насцярожана глянуць на цывілізацыйную адсталасць Падляшша. Наш народ, калі параўнаць грамадскую свядомасць украінцаў, выглядаў быццам першабытныя, загубленыя ў пушчы і часе плямёны.

Такімі, менавіта загубленымі дзеткамі ў часе і прасторы падаліся нам маладыя „магістры" ад Сямятыч: Арэк і Марэк. Хоць трэба сказаць адно: у іх былі добрыя сэрцы, яны зліталаліся ды падабралі нас з дарогі, і гэта якраз у момант, калі мы пачалі сумнявацца ў людскую дабрыню і спагаду...

Усё падарожжа праз Польшчу, з Беластока ў Пярэмышль і назад, мы адолелі аўтаспынам. Увесь час падвозілі нас добрыя людзі, сярод якіх траляліся жывыя анёлы, вайскоўцы, ксяндзы, скінхеды, балгары, фрустраты, спартсмены, бізнесмены. Калі глядзець на ўсё з перспектывы дзесяці гадоў, — бо столькі часу падарожнічаем у той бок аўтаспынам, — у грамадстве пабольшыўся адсотак добрых людзей. У гэты раз мы без праблемаў за адзін дзень дабраліся ў Львоў і столькі часу патрабавалі, каб вярнуцца дахаты. У тых жа Сарнаках, незразумела чаму, мы зрабіліся цётачкамі-няўгледкамі. Мы больш за гадзіну стаялі на акраіне мястэчка, у цемры і дажджы, ды як на злосць нас з лютай абыякавасцю абміналі ўсе аўтафуры, аўтамабілі і джыпы. Трывогу і пачуццё расчаравання падбіваў спех — яшчэ да поўначы нам трэба было вярнуцца ў Беласток. Недзе за плотам у цемры, як падкупленыя, брахаў дварняк.

Марэк ды Арэк спачатку таксама праляцелі са свістам, ад'ехалі нейкія дзвесце метраў, пасля раптоўна спыніліся і нечакана пачалі каціць сваю аўтафуру з расхістаным прычэпам задам у наш бок. У нас не было часу, каб выраша
ць: ехаць — ці не! Ды толькі ў сярэдзіне салона аўтафуры, дзе наперамен лунаці пахі марыхуаны і хляўка, мы зразумелі, што трапілі ў дурную тусоўку.

* * *

Спачатку, як добрыя дзяўчаткі, мы падзякавалі маладзёнам за іх грамадскую гатовасць дапамагчы ў дарозе, ды пачаставалі ўкраінскімі цукеркамі. Хлопцы вярталіся ажно з Мазовіі, куды на сваёй аўтафуры дастаўлялі салому. Спачатку за рулём царыў Марэк. Ён што і раз падбаўляў хуткасць, пускаў абаранак руля і рагатаў з нецікавых сваіх анекдотаў. Арэк таксама рагатаў і жлукціў з пластмасавай літроўкі таннае піва, набытае ў „Бядронцы". Каб зрабіць адпаведнае ўражанне, хлопцы назвалі сябе выпускнікамі беластоцкага ўніверсітэта. Мы спыталі, чаму яны, паны „магістры-гуманісты", апынуліся за рулём аўтафуры з саломай.









— Bo lubię, k..., przygody, a nie jakieś buracze koneksje, — адрубаў Марэк.

У доказ адукацыі хлапец стаў называць прозвішчы выкладчыкаў Універсітэта ў Беластоку, пасля ўсе гандлёвыя галерэі і ўрэшце цану здыманых памяшканняў у паасобных кварталах Беластока. У кожным слове адчувалася настальгія.

— A wiecie, że niedaleko Siemiatycz znajduje się podlaska Częstochowa? — паспрабаваў блiснуць Арэк.

Здавалася, апошняя заўвага дазволіць нам на большую дозу сяброўства.

— А вы бываеце на Святой Гары Грабарцы? — пачалі мы далікатную разведку; хлопцы раз паводзілі сябе як „свае людзі", іншы раз як іншапланецяне.

— Мы не! — рашуча адрэзаў Марэк. — Prawdziwymi Polakami jesteśmy, z krwi i kości.

— I z charakteru, — дабавіў Арэк, — lubimy tiry i wypady do Amsterdamu.

Апошняя заўвага мела ўсвядоміць нам, што маем дачыненне з падарожнікамі, падшытымі дзікай прыгодай і авантурай. Пасля мы павярнулі на нейкую закрытую аўтазапраўку, дзе хлопцы акуратна запраўляліся... марыхуанай.

* * *

Змена наступіла вокамгненна. Цяпер за руль сеў Арэк, той самы, які раней хлябтаў піва. Ён з піскам ірвануў на шашу, пакідаючы за сабой смурод паленай гумы і ляскат расхрыстанага прычэпа з-пад саломы. У салоне, быццам чарвякі, закружыліся паасобныя саломінкі і травінкі.

— Эй! А навошта вы ездзілі на тую Украіну? — пры гэтых словах Марэк падскочыў як апараны.

Значны адсотак жыхароў Падляшша не жадае нічога ведаць пра падзеі, што адбываюцца ў недалёкай Украіне. Быццам ужо сама інфармацыя была для іх смяротнай пагрозай. Гэтая схільнасць да ізаляванасці і спіхвання набрынялай праблемы ў нябыт мела ў сабе нешта дзіцячае, першабытнае, племяннное. Нашы „магістры-гуманісты" як агню баяліся вестак. Яны самі найлепш ведалі, што ва ўсім вінаватыя ўкраінцы:

— Навошта яны выходзілі на той свой Майдан? — гарачыўся Марэк.

Пасля ён запатрабаваў акрэсліць сваю пазіцыю — з кім ты трымаеш. Бо калі з Расіяй, гэта добра. Чаму яна лепшая за Украіну, якая паўстала бараніць свае землі і незалежнасць?

— Бо да вайны Расія ад нас яблыкі купляла, — адказаў Марэк. — Усім было добра. А зараз што — няма дзе яблык дзяваць...

Каб падключыцца да размовы Арэк, які па-казацку руліў аўтафурай, апярэджваў машыны, паказваў абагнаным шафёрам непрыстойны жэст ды дзіка рагатаў. У міжчасе ён распраўляўся з дарагавізнай у сямятыцкіх магазінах:

— Калісь за два злоты я мог купіць ёгурт і дзве булкі. А цяпер ледзь на адзін ёгурт хапае. Дзе тут толк, дзе справядлівасць?

Каб дабавіць „чаду", хлопцы наперамен пачалі крычаць пра Валынскую разню, ды такой жудаснай лексікай, што не паўтарыць. У іх словах была нянавісць і адначасова дзікае захапленне жудаснасцю, быццам тыя злачынствы, здзек і гуманітарная катастрофа былі камп'ютарнай гульнёй, якую можна выключыць любы момант.

Мы ўсё ж такі даехалі жывыя ў Сямятычы. Пасля, пешшу, у цемры і пад дажджом, маршыравалі праз вуліцы горада, каб хоць крыху аддыхацца ад кашмарных „магістраў-гуманістаў".

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960